


ЧАСОПІСЬ

КААПЭРАЦЫЙНЫХ ЦЭНТРАЎ БССР,
БЕЛСЕЛЬБАНКУ І ЎСЕКАБАНКУ

ЧЭРВЕНЬ
№ 6
1929
МЕНСК

# ЗЬМЕСТ



## Практыка нашае працы



## На мясцох



## Бібліяграфія



## Афіцыйны аддзел



## Хроніка

Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# КААПЭРАЦЫЯ Б. С. С. Р.

ДВУХТЫДНЁВЫ ОРГАН
КААПЭРАЦЫЙНЫХ ЦЭНТРАЎ БССР,
БЕЛСЕЛЬБАНКУ і ЎСЕКАБАНКУ

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ
АЛ. КРАСОЎСКАГА, ТУМАСА,
МАТУСЭВІЧА, Г. ХАСКІНА і А. ФРЫДА

ПЕРШЫ ГОД ВЫДАНЬНЯ

№ 6

ЧЭРВЕНЬ








МЕНСК — 1929

# ГАРАЧАЕ ПРЫВІТАНЬНЕ III ЗЬЕЗДУ ЎПАЎНАВАЖАНЫХ ПРАМКААПЭРАЦЫІ

**Ал. Красоўскі**

## Да трэцяга ўсебеларускага зьезду ўпаўнаважаных прамкаапэрацыі

Прамысловая каапэрацыя ў БССР за час свайго існаваньня, бязумоўна, мае значныя дасягненьні ў сваёй рабоце і асабліва ў рабоце за апошні справаздачны год, у якім разьвіцьцё прамысловай каапэрацыі атрымала найбольш яскравыя зрухі. Разгортваньню працы спрыяла цьвёрдае кіраўніцтва камуністычнай партыі і ўраду, якія далі напрамак у далейшай працы прамысловай каапэрацыі, зьвярнулі ўвагу усяе партыйнае і савецкае грамадзкасьці на яе працу і тым дапамаглі больш шпарка і рашуча разгарнуць працу сыстэмы ва ўсіх яе галінах.

Вось таму надзвычайна важна ў кароткіх рысах спыніцца на асноўных лічбах, якія характарызуюць працу сыстэмы, і з аналізу якіх можна ўстанавіць ролю і значэньне прамысловае каапэрацыі ў будаўніцтве БССР.

На 1 кастрычніка 1928 году каапэравана прамкаапэрацыяй 38.088 ч., ці 35,4 проц. да агульнага ліку саматужнікаў (па нашых вестках у БССР налічваецца 107.600 саматужнікаў). З гэтае лічбы 10.957 чалавек каапэравана ў абагуленым сэктары (арцелі), а астатнія 27.131 чалавек у крэдытна-прамысловыя таварыствы і вядуць сваю вытворчую працу самастойна. Асабліва буйны рост каапэраваньня ў арцелі быў у 1927-28 годзе (з 4.159 на 1/X—1927 г. да 10.950). Адначасова з ростам каапэраваньня расьлі і арцелі, лік якіх за 1927-28 год павялічыўся з 265 да 617 пры сярэднім павялічэньні членаў на 1 арцель (15,7 чал. да 17,7 чал.).

За I квартал бягучага году прырост у арцелі даў 2.656 чалавек, а ў таварыствы 504 чал.; з гэтага можна бачыць, што каапэраваньне, у пераважнасьці сваёй, ідзе за рахунак абагуленага сэктару (арцелі), што трэба прызнаць станоўчым бокам і правільным накіраваньнем працы сыстэмы ў бок арганізацыі ўсяе вытворчасьці ў абагуленых майстэрнях пры арцелях. Надзвычайна дрэнна толькі тое, што арганізацыя арцеляй і каапэраваньне ішлі, галоўным чынам, за лік промыслаў з дэфіцытнай сыравінай (кравецкі, шавецкі і гарбарны), і надзвычайна слаба праходзіла каапэраваньне па промыслах, у якіх сыравіны ёсьць у дастатковай колькасьці і бяз страты для дзяржпрамысловасьці маецца ў межах БССР. Толькі Гомельскі саюз зразумеў пастаўленую перад прамкаапэрацыяй задачу і ў шырокай ступені разгарнуў працу па разьвіцьцю промыслаў на мясцовай сыравіне, дзе мы маем шэраг арцеляй па выпрацоўцы цэглы і іншых прадметаў па керамічнаму промыслу, а таксама розныя арцелі па вырабу розных рэчаў з драўніны. У Беларусі, дзе драўніна займае адно з першых месц у народнай гаспадарцы, мы надзвычайна слаба скарыстоўвалі ўсе магчымасьці па арганізацыі апрацоўкі драўніны і асабліва яе не таварнай (неліквіднай) часткі.

І як вынікі такой працы, калі ўся ўвага была зьвернута на промыслы з дэфіцытнай і прывознай сыравінай, а так як раней усе гэтыя промыслы атрымалі сваё разьвіцьцё толькі ў гарадох і мястэчках, мы маем надзвычайна слабы лік каапэраваных за кошт вёскі.

З агульнага ліку каапэраваных у 10.957 у арцелях, толькі 1.874, альбо 17 проц., падае на вёску. Арганізацыя промыслаў на мясцовай сыравіне

дала-б магчымасьць уцягнуць у арцелі вясковую беднату і тым палепшыць яе матар'яльнае становішча, тым больш, што і арганізацыя такіх промыслаў не патрабуе асаблівай кваліфікацыі і значных укладаньняў.

За 1927-28 год арцелямі выраблена гатовай прадукцыі на 16.712,5 т. р., якая цалком была рэалізавана і ў значнай ступені праз свае саюзы (35,8 проц.), дзяржорганы (12,5 проц.), іншыя каапэрацыйныя сыстэмы (23,3 проц.) і непасрэдна спажыўцу і прыватніку (28,4 проц.). Трэба адзначыць ненармальным рэлізацыю прадукцыі арцелямі спажыўцу і асабліва прыватніку. За першы квартал бягучага году арцелямі выраблена гатовай прадукцыі на 8,600 тыс. руб., у два разы больш чым за два кварталы мінулага году. Такім чынам, гэтыя лічбы паказваюць нам значную ўдзельную вагу прамкаапэрацыі ў эканоміцы народнае гаспадаркі БССР, якая зьяўляецца неабходным дадаткам да дзяржаўнай прамысловасьці, дапамагаючы павялічэньню прадукцыі і зьмяншэньню беспрацоўя. Надзвычайна каштоўным зьяўляецца зьлічэньне асобных момантаў з пяцігодак ВСНГ і БСПС на канец пяцігодкі (1932-33 г.).

| | | | |
|---|---|---|---|
| Па рабочай сіле ВСНГ | 65.977 | чал., ці 49,4 | проц. |
| „ „ „ БСПС | 67.664 | „ „ 50,6 | „ |
| „ прадукцыі ВСНГ | 391.519,0 | т. р. „ 69,6 | „ |
| „ „ БСПС | 171.227,3 | „ „ „ 30,4 | „ |
| „ капіт. укладаньнях за ўсе пяць год ВСНГ | 217.316,0 | „ „ „ 96,8 | „ |
| „ „ „ „ „ „ „ БСПС | 7.210,0 | „ „ „ 3,2 | „ |

Агульны таварны зварот сыстэмы па ўсіх зьвенчаках за 1927-28 г. выказаўся ў суме 44,7 міл. руб.

Паявы капітал за 1927-28 г. па арцелях узрос з 445,5 т. р. да 973,9 т. р. і складае 67,3 проц. да статутнага і па крэдытна-прамысловых таварыствах з 193,6 т. р. да 252,1 т. р.

У выніку працы ўсяе сыстэмы прамкаапэрацыі за 1927-28 год атрымана чыстага прыбытку ў суме 1.190,1 тыс. руб., з іх па БСПС і акрсаюзах 404,7 тыс. руб., арцелях—567,3 тыс. руб. і крэдытна прамысловых таварыствах 218,1 тыс. руб.

Разам з дадатнымі бакамі працы сыстэмы мы не павінны зачыняць вочы на тое, што ў практыцы работы сыстэмы ва ўсіх яе зьвенчаках ёсьць шэраг сур'ёзных і вялікіх недахопаў, сваечасовае ўхіленьне ад якіх дало куды лепшыя вынікі, чым мы маем іх да сёньняшняга зьезду. Як ужо было сказана вышэй, каапэраваньне ішло шпаркім тэмпам, але прасачыць дэтальна-сацыяльны склад каапэраваных немагчыма ў сувязі з адсутнасьцю належнага вучоту. Вядома, што адсутнічаньне такога вучоту магло быць і было вынікам няправільнага абслагоўваньня бядняцка-серадняцкіх пластоў. Гэты галоўны недахоп у працы зрабіў свой адмоўны адбітак на псыхалёгію некаторых працаўнікоў сыстэмы, адсюль і прыём у арцелі пад назваю дэклясавых элемэнтаў—нэпманаў, кантрабандыстых, валютчыкаў, былых эксплёататараў і іншых непрацоўных. Крэдытна-прамысловыя таварыствы ў сваю чаргу пачалі крэдытаваць і нават на вялікія сумы непрацоўныя элементы. Мы маем такі выпадак, калі Койданаўскае таварыства, Менскае акругі, на працягу доўгага часу трымала ў сваіх шэрагах кантрабандыстага, які пасьля зьяўленьня з сылкі, куды ён быў сасланы за кантрабанду, атрымаў у гэтым таварыстве за час з 1/X—1928 году па 15 чэрвеня 1929 г. дэфіцытных скураных тавараў на 738 руб. і, акрамя таго, пазыку ў 300 рублёў. Гэты кантрабадысты карыстаецца асаблівою пашанай з боку праўленьня. Таварыства і тавар яму адпушчае толькі па адчыненаму рахунку і нават без налічэньня працантаў.

Калі прасачыць за папаўненьнем паю і спэцыяльнага ўзносу, дык як раз заможныя групы ўнесьлі меншыя сумы, чым беднякі. Затое у гэтым таварыстве фонды каапэраваньня беднаты не скарыстаны, бо, па думцы

праўленьня таварыства, беднаты няма, а калі і ёсьць, дык „для кооперирования бедноты из района созвать собрание кустарей в м. Койданово с целью их кооперирования“ (з пастановы праўленьня Койданаўскага крэдытна-прамысловага таварыства ад 16/I—1929 году). Гэта замест таго, каб праўленьню выехаць непасрэдна ў раёны знаходжаньня беднаты і правесьці там сходы беднаты, яно вынесла такую пастанову. Койданаўскае таварыства не адзінае, такія злачынныя моманты скажэньня клясавай сутнасьці ў нашай працы ёсьць і па шэрагу іншых таварыстваў. У галіне каапэраваньня беднаты ня лепшае становішча і ў некаторых акрсаюзах, дзе гэтую працу лічаць другараднай, праводзяць яе надзвычайна дрэнна, фонды каапэраваньня не скарыстоўваюцца, вучоту працы па каапэраваньні і крэдытаваньні беднаты няма.

Наша задача павінна заключацца ў тым, каб на працягу бліжэйшых часоў наладзіць вучот сацыяльнага складу членаў у таварыствах і арцелях, бо бяз гэтага вучоту нельга аздаравіць сыстэму і накіраваць яе па правільнаму шляху, адпаведна з задачамі, якія пастаўлены перад намі партыяй і ўладай.

Са ўсімі парушэньнямі асноўных дырэктыў партыі і ўраду трэба рашуча змагацца. Чыстка арцеляй ўжо дала станоўчыя вынікі; па некаторых саюзах гэтая праца яшчэ ня скончана, але па сканчэньні гэтай працы, як кампанейскай, трэба будзе ў штодзённай працы яе працягваць, каб на працягу бліжэйшага часу ачысьціць шэрагі прамкаапэрацыі ад такіх элемэнтаў, інтарэсы якіх розьняцца ад інтарэсаў савецкай каапэрацыі. Да наступнай справаздачна-перавыбарчай кампаніі не павінна быць ніводнага члена, які-б скарыстоўваў сваё знаходжаньне ў прамкаапэрацыі ў асабовых мэтах. Толькі маючы здаровы склад членаў, можна будзе цалком аздаравіць кіруючыя органы, а разам з гэтым і поўнасьцю выканаць дадзеныя дырэктывы.

Замест вычышчаных з арцеляй трэба ўцягнуць новых членаў з бядняцкіх пластоў саматужнікаў і іншай вясковай беднаты.

У галіне каапэраваньня і абслугоўваньня беднаты праца павінна быць пастаўлена, як першачарговая, фонды каапэраваньня павінны быць скарыстаны своечасова і правільна, трэба наладзіць вучот беднаты, якая падлягае каапэраваньню. Каапэраваньне беднаты павінна ісьці выключна за кошт вытворчага сэктару. Разам з агульным каапэраваньнем мы павінны ўдзяліць увагу каапэраваньню жанчын і моладзі, захоўваючы якасны адбор. У адносінах да моладзі, якая працуе ў арцелях, павінны быць створаны лепшыя ўмовы вучнёўства, і канчаткова трэба адмовіцца ад дзедаўскіх спосабаў вучобы (карыстаньне на пабягушках, недапушчэньне на кваліфікаваную працу і інш.).

Асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на разьвіцьцё промыслаў, якія працуюць на мясцовай сыравіне. У нашых умовах могуць мець шырокае разьвіцьцё промыслы: смалакураны, па выпрацоўцы цэглы, вапны, ганчарных мастацкіх вырабаў, годных для экспарту, спатры (саломка з асіны), якая экспартуецца за межы СССР, сялянскія ўдасканаленыя калёсы, вырабы з лазы і інш. Цікавым зьяўляецца сьпірытусова-парашковы промысел, зусім новы для БССР, які будзе выпрацоўваць прадукцыю неабходную для хэмічнай прамысловасьці, якая цяпер імпартуецца. Але разьвіцьцё гэтае прамысловасьці тармазіцца з-за вялікае наддачы на драўніну. Дзякуючы вузкім ведамсьцьвеным інтарэсам (Лесбел), магчыма, гэтая праца ў гэтым годзе будзе сарвана. Такім чынам, разьвіцьцё гэтых промыслаў дапамагло-б пашырыць бяз страт для дзяржаўнай прамысловасьці, каапэрацыйную прамысловасьць, а спажыўцу дало-б неабходную прадукцыю.

Ня меншую ролю павінен адыграць і мастацка-ткацкій промысел, які, па-першае, дасьць магчымасьць каапэраваць вясковую жанчыну, а па-другое, мастацкія вырабы ў беларускім стыле зьявяцца прадметам экспарту.

Выкананьне задач, якія стаяць перад прамкаапэрацыяй можна будзе вырашыць тады, калі стала наладзім працу па паянакапленьню. Да гэтага часу паі ад членаў поўнасьцю не сабраны, і мы павінны паставіць задачай поўнасьцю пагасіць паявую запазычанасьць на працягу бліжэйшага паўгода. Для беднаты і груп мала аплачваемых павінны быць дадзены ільготы і растэрміноўкі для ўзносаў паю.

Продаж гатовай прадукцыі арцелямі спажыўцу і асабліва прыватніку-гандляру (яўнаму ці тайнаму), каб пазбавіцца ўсялякіх злоўжываньняў, павінен быць канчаткова забаронены. Акрсаюзы і БСПС павінны наладзіць у цэнтралізаваным парадку збыт усяе прадукцыі арцеляй і па магчымасьці адзінак саматужнікаў па генэральных умовах з каапэрацыяй і дзяржорганамі. Ня меншая ўвага павінна быць зьвернута і на забесьпячэньне арцеляй і адзінак саматужнікаў ня толькі асноўнай сыравінай, а і дапаможнымі матар' яламі. Якасьці прадукцыі не ўдзяляецца дастатковае ўвагі. Тлумачыцца гэта адсутнічаньнем добрых майстроў-інструктароў, нізкаю кваліфікацыяй рабочых, а часамі і дрэннымі адносінамі да даручанае працы. Тут трэба ў першую чаргу палепшыць і ажывіць працу вытворчых нарад, а па-другое, ужываць меры адміністрацыйнага спагнаньня да асоб, якія дрэнна выконваюць працу. Былі выпадкі нават прамога шкодніцтва (Магілеўская шавецкая арцель), калі група шаўцоў у 14 чалавек сьвядома псавала абутак. У такіх выпадках трэба бязьлітасна выганяць з арцеляй шкоднікаў, а справы аб шкодніцтве неадкладна перадаваць пракурору для прыцягненьня да судовае адказнасьці.

Зьезд павінен шырока абгаварыць пытаньне аб будаўніцтве асобных памяшканьняў пад абагуленыя майстэрні арцеляй, бо сучаснае становішча з памяшканьнямі ў большасьці сваёй не адпавядае ні тэхнічным, ні гігіенічным умовам. Тут мы павінны будзем больш энэргічна і поўна выкарыстаць тыя пастановы ўраду, якія ёсьць наконт перадачы прамкаапэрацыі розных прадпрыемстваў і часткова пачаць будаваць свае ўласныя будынкі

Вялікае значэньне мае цяпер праводзімая праца па ўзбуйненьню арцеляй. Узяты напрамак на ўзбуйненьне арцеляй дае і дасьць надзвычайна многа. Гэтым мы дабіваемся рацыяналізацыі і мэханізацыі прадпрыемстваў, паляпшэньня якасьці прадукцыі, патаненьня яе, скарачэньня накладных выдаткаў, абагульненьня вытворчасьці і інш. У далейшым трэба будзе неаслабна весьці працу ў гэтым напрамку.

Ня меншае месца сярод іншых пытаньняў павінна заняць абгаварэньне мэтадаў працы па ўпарадкаваньню мястэчак. Да гэтай галіны працы мы ў большасьці падыходзім аўтаматычна, без належнага вывучэньня ўсіх эканамічных магчымасьцяй і скарыстаньня рабочае сілы. У большасьці арганізуем такія промыслы, якія ня маюць пэрспэктывы на разьвіцьцё; арцелі распадаюцца, і ў выніку ніякае карысьці і належнага эфэкту такая праца не дае. Ёсьць выпадкі затрыманьня адпушчаных крэдытаў саюзамі і таварыствамі. Праца па ўпарадкаваньню мястэчак павінна стаць штодзённаю і сталаю працаю кожнага працаўніка сыстэмы, павінен быць арганізаваны сталы нагляд і тэхнічная дапамога нанова створаным арцелям, і тады належны эфэкт будзе забясьпечан.

Культурна-асьветная і масавая праца праводзілася надзвычайна слабым тэмпам. Прычынаю гэтага была неразьмежаванасьць працы паміж саюзамі і таварыствамі саматужнікаў і адсутнічаньне сталых інструктароў у саюзах. Гэтыя дзьве асноўныя прычыны, якія зьезд павінен будзе адхіліць.

Задачы, якія пастаўлены перад прамкаапэрацыяй можна будзе выканаць поўнасьцю толькі тады, калі сыстэма будзе мець добраякасны кіруючы кадр працаўнікоў. Такім кадрам працаўнікоў на сёньняшні дзень мы не забясьпечаны, а між тым праца сыстэмы з кожным днём усё ўскладняецца, і пагэтаму на стварэньні кадраў трэба спыніць увагу

зьезду. Не шкадуючы сродкаў, трэба скарыстаць усе магчымасьці да пасылкі большага ліку моладзі ў тэхнікумы і прафшколы. Трэба скарыстаць Віцебскі каапэрацыйны тэхнікум у большай ступені, чым мы рабілі гэта да гэтага часу, і патрабаваць ад яго адпаведныя запатрабаваньні.

НКА БССР вырашыла пытаньне аб стварэньні пры каапэрацыйным аддзяленьні БДУ саматужна-прамысловага цыклю на 20 студэнтаў, туды мы павінны будзем накіраваць з нашае сыстэмы самых лепшых, вытрыманых таварышаў. Адначасова са стацыянарнаю вучобай мы павінны будзем разгарнуць шырокую сетку розных курсаў па перападрыхтоўцы інструктароў, старшынь і членаў праўленьняў і рэвізійных камісій. Адначасова з гэтым павінна быць разгорнута вучэбная праца сярод звычайнай масы каапэраваных саматужнікаў шляхам стварэньня вячэрніх школ і гурткоў.

Задачы трэцяга ўсебеларускага зьезду прамысловай каапэрацыі будуць з посьпехам разьвязаны пры ўмове, калі кожны дэлегат зьезду ад арцелі, таварыства, акрсаюзу і БСПС і прадстаўнікоў іншых цэнтральных устаноў і арганізацый увесь свой вопыт, які сабраўся за час паміж другім і трэцім зьездам, цалком выкладуць на зьезьдзе і тым дапамогуць разгортваньню і разьвіцьцю дзейнасьці сыстэмы прамкаапэрацыі.

---

**А. Фрыд**

# Саматужна-прамысловая сыстэма каапэрацыі БССР на 1|X 1928 г.

*(па матаря'лах БСПС)*

*(Працяг)*

### Зьведзены балянс арцельнага звенчаку сыстэмы на 1/X 1927 і на 1/X 1928 году мае такі выгляд:

| АКТЫЎ | 1/X-27 г. | % | 1/X-28 г. | % | ПАСЫЎ | 1/X-27 г. | % | 1/X-28 г. | % |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Маёмасьць . . . | 936,5 | — | 1817,0 | — | Паявы капіт. . . | 444,5 | — | 964,0 | — |
| Паі і актыў . . . | 113,3 | — | 248,0 | — | Асноўн. уласны . | 98,7 | — | 98,5 | — |
| Іншыя . . . . . . | 25,9 | — | 4,2 | — | Іншыя . . . . . | 98,4 | — | 324,4 | — |
| | 1075,7 | 28,5 | 2069,2 | 29,6 | | 641,6 | — | 1386,9 | 19,8 |
| | | | | | Прыбытак . . . | 81,8 | — | 567,4 | — |
| Каса і бяг. рах. . | 169,0 | — | 291,5 | — | | 723,4 | 19,1 | 1954,3 | 29,4 |
| Тавары і мат. . . | 1566,7 | — | 3200,2 | — | Уклады . . . . | 205,7 | — | 519,6 | — |
| Вэксалі атрым. . | 299,1 | — | 440,4 | — | Пазыкі і сум. . | 363,0 | — | 909,6 | — |
| Дэбіторы . . . . | 447,5 | — | 871,7 | — | Вэкс. выдан. . . | 1351,4 | — | 1606,2 | — |
| Іншыя . . . . . . | 216,6 | — | 105,7 | — | Крэдыторы . . . | 950,2 | — | 1870,0 | — |
| | | | | | Іншыя . . . . . | 180,8 | — | 119,2 | — |
| Разам . . . | 2698,9 | 71,5 | 4909,7 | 70,4 | Разам . . | 3051,2 | 80,9 | 5024,4 | 70,6 |
| Балянс . . . . | 3774,6 | — | 6978,7 | — | | 3707,6 | — | 6978,7 | — |

Увага. У тым ліку доўгатэрміновых 123,2.

Агульнае становішча зьведзенага балянсу арцеляй на 1 кастрычніка 1928 году больш добрае, чым на 1 кастрычніка 1927 году: сума нярухомых актываў, якая пакрыта пазычковымі сродкамі і адносна меншая

на 1 кастрычніка 1927 году, чым на 1 кастрычніка 1928 году. Усё-ж зьведзены балянс на 1 кастрычніка 1928 году трэба лічыць напружаным, які перажывае вялікія цяжкасьці з прычыны паступовага ходу капіталаў звароту і скарачэньня часу і сум таварнага крэдытаваньня, што і характэрна для становішча арцеляй к кастрычніку 1928 году ў параўнаньні з кастрычнікам 1927 году.

Адсутнасьць уласных сродкаў у сувязі з загружанасьцю іх у маёмасьці зьяўляецца асноўнаю прычынаю напружанасьці балянсу арцелі.

Наступнаю характэрнаю рысаю зьведзенага балянсу на 1 кастрычніка 1928 году, у параўнаньні з 1 кастрычніка 1927 году, зьяўляецца зьмяншэньне нагрузкі яго асноўнымі і зваротнымі фондамі на 1 члена арцелі. На 1 кастрычніка 1927 году нярухомых сродкаў на 1 члена арцелі было 263 руб., а зваротных—645 руб., а на 1 кастрычніка 1928 году нярухомых сродкаў на 1 члена 180 руб. і зваротных 464 руб. Тавараў і матар'ялаў на 1 члена на 1 кастрычніка 1927 г. 376 р., а на 1 кастрычніка 1928 г. 302 р.

Гэтыя абставіны паглыблялі напружанасьць грашовага становішча арцелі і паслаблялі тым накапленьні ўласных сродкаў, асабліва паявых. Сярэдні памер аплочанага паю на 1 члена арцелі зьменшыўся з 107 р. на 1 кастрычніка 1927 году да 88 руб. на 1 кастрычніка 1928 г.

Больш добрыя з грашовага пункту погляду вынікі мы маем у адносінах да прыбытку. Балянс арцелі на 1 кастрычніка 1928 году паказвае выніковы прыбытак у суме 567.400 руб., што складае прыблізна 3,3 проц. ад сумы прадукцыі арцеляй. Памер сам па сабе ўзяты ня малы, але ён ня вырашае пытаньня дастатковага накапленьня ўласных сродкаў у арцельным зьвенчаку, паколькі недастатковы памер самой прадукцыі, паявога накапленьня і доўгатэрміновых сум для фінансаваньня капітальных укладаньняў у арцелях.

Трэба разам зазначыць, што шэраг арцеляй скончылі апэрацыйны 1927-28 год дэфіцытам, у асаблівасьці арцелі харчовага промыслу, лесапрамысловага, смалакуранага. Для гэтых промыслаў, а таксама для промыслаў дрэваапрацоўчага, мэталёапрацоўчага, пянька - прадзільнага і для некаторых другіх характэрна значнае перавышэньне імобільных актываў, у прыватнасьці маёмасьці, над уласнымі сродкамі. Перад гэтымі промысламі найбольш востра стаіць пытаньне аб паявым і другім накапленьні сродкаў уласных і найбольш рацыянальнай пабудове заробчае платы і іншых выдаткаў.

Промыслы: шорны, кравецкі, шавецкі, валяльны, панчошна-трыкатажны, маюць невялікі процант усласных сродкаў у зваротным фондзе, і для гэтых промыслаў настойліва неабходна павялічэньне ўласных сродкаў. Найбольш мэтазгоднай з сацыяльнага і грашовага пункту погляду сыстэмай паявога накапленьня зьяўляецца дыфэрэнцыяваны пай па памерах зарплаты, якая сыстэма ўведзена толькі ў апошні час.

У 1927-28 годзе кіраўніцтва з боку Белсампрамсаюзу грашоваю гаспадаркаю арцельнага зьвенчаку, таксама як і яго вытворчай дзейнасьцю, было слабое. Асабліва трэба адзначыць адсутнасьць нагляду за напрамкам капітальных укладаньняў у арцелях і за іх вучотам.

## Крэдытна-прамысловыя таварыствы

Рост сеткі другіх крэдытна-прамысловых таварыстваў у 1927-28 годзе адбываўся, галоўным чынам, у мястэчках, а ў гарадох лік таварыстваў павялічыўся ўсяго на 1. Колькасьць пайшчыкаў таварыства вырасла на 25,1 проц. У 1927-28 годзе таварыствы былі пераведзены на новы статут, як арганізацыі, якія займаюцца крэдытна-таварнымі апэрацыямі

на падставе закону аб каапэрацыйным крэдыце. Аднак, у сувязі з недастатковасьцю сыравіны таварныя апэрацыі таварыства разгортваліся слаба, і ўвесь іх зварот за 1927-28 год вылічаны ў суме 4 мільёны руб., г. зн., у 198 р. на 1 члена теварыства, пры гэтым збытавая апэрацыя складала толькі 1/10 частку ўсяе таварнае апэрацыі. Зварот-жа па пазыках на 1 члена ў гарадзкіх таварыствах вылічаны ў суме 265 рублёў пры сярэднім памеры пазыкі ў 77 руб. і сярэднім тэрміне 3,4 м-цы. Па мястэчку сярэдні памер вылічанае пазыкі ў 250 руб. пры сярэдняй пазыцы ў 54 р. і тэрміне 3,1 м-ца. Па ўсёй сэкцыі таварystваў сярэдні памер пазыкі ровен 67 руб. 67 кап. на 1 кастрычніка 1928 году, замест 54 руб. 63 кап. на 1 кастрычніка 1927 году.

Сярэдні сабраны пай у таварыствах на 1 кастрычніка 1928 году ровен 11 руб 73 кап. пры паі ў статуце ў 15 руб., сярэдні сабраны ўзнос на таварныя апэрацыі 4 руб. 98 кап. Сярэдні памер укладаў 22 руб. 70 кап. на 1 члена таварыства.

Зьведзены балянс таварystваў на 1 кастрычніка 1928 году мае такі выгляд:

| АКТЫЎ | | % | ПАСЫЎ | | % |
|---|---|---|---|---|---|
| Маёмасьць | 66577 | — | Паявы капітал | 315225 | — |
| Паі і актыў | 108698 | — | Асноўны ўласны | 61396 | — |
| Іншыя | 1792 | — | На ўвядзеньне таварных апэрацый | 133618 | — |
| | | | Іншыя | 98454 | — |
| Разам | 177067 | 5.7 | | 608803 | 19,6 |
| | | | Прыбытак | 218059 | |
| Каса і бяг. рах. | 126650 | — | | 826862 | 26,7 |
| Тавары | 419036 | — | Уклады і бягуч. рахун. | 601023 | — |
| Розныя асобы і ўст. | 132881 | — | Пазыкі | 10017921 | — |
| Пазыкі | 1817815 | — | Вэксал. да плацяж. | 247588 | — |
| Вэкс. атрыман. | 32-524 | — | Розныя асобы | 193189 | — |
| Іншыя актывы | 91467 | — | Іншыя пасыўн. | 106896 | — |
| Балянс | 2916373<br>393440 | 94,3 | | 2266578<br>393440 | 73,3 |

Балянс таварystваў устойлівы, пры чым удзельная вага ўласных сродкаў за 1927-28 год павялічылася з 23 проц. да 26,7 проц.

Ці пакрываецца актыў таварных апэрацый спэцыяльнымі для гэтае мэты пасывамі і зьведзеным балянсам, устанавіць цяжка. Трэба было-б для чоткасьці адлучыць балянс таварнае часткі ад балянсу крэдытнай апэрацыі. Перад таварystвамі стаяць задачы далейшага збору паявога і спэцыяльнага ўзносу, разьвіцьця камісійна-таварнай апэрацыі, асабліва збытавой, разьвіцьця агульна-банкаўскай апэрацыі пры дапамозе карэспандэнцкіх сувязяй, далейшае ўзмацненьне сувязі з арцелямі па іх абслугоўваньню крэдытам і таварна-камісійнымі апэрацыямі. Асабліва востра стаіць пытаньне аб устанаўленьні вучоту сацыяльнага складу і правільнай палітыкі ў адносінах абслугоўваньня беднаты. За апошні год процант недахопаў па пасыўных і актыўных апэрацыях у крэдытных таварystвах паступова зьніжаецца, па меры далейшага накапленьня зваротных сродкаў. Таварystвы павінны ісьці па шляху далейшага зьніжэньня процантнае стаўкі. Разьвіцьцё укладное апэрацыі, барацьба з пратэрмінаваньнямі павінны стаяць у цэнтры ўвагі крэдытных таварystваў.

### Статута-Прамысловыя саюзы

Саюзны зьвянчак сыстэмы на 1 кастрычніка 1928 году складаўся з 4 буйных раённых цэнтраў і Белсампрамсаюзу, які абслугоўваў непасрэдна Менскую і Аршанскую акругі. Да канца 1927-28 году Белсампрамсаюз вылучыў работу па абслугоўваньню нізоўкі Менскае і Аршанскае акруг у асобнае аддзяленьне пры Белсампрамсаюзе. Аднак да апошняга часу кола абавязкаў, правоў і функцый аддзяленьня засталася ня вызначаным і ня скончаным. Абслугоўваньне арцеляй ў раёне дзейнасьці саюзаў у тых акругах, дзе няма праўленьня саюзу, хварэе недастатковаю пругкасьцю і паўнатой. Белсампрамсаюз і саюзы для гэтае мэты ня выкарысталі пасярэдніцкіх паслуг крэдытна прамысловых таварыстваў на камісійных пачатках і не наладзілі адпаведнага інструктарскага апарату.

Звароты 4 саюзаў за 1927-28 год па забесьпячэньню *сыравінай* насельніцтва паўфабрыкатамі выказаліся ў суме 6,507 тысяч, што дае прырост супроць 1926-27 году на 156 проц. Пераважнымі таварамі па забесьпячальнай апэрацыі зьяўляліся скураныя тавары—47 проц., крамніна—23,8 проц., закупля саюзаў у Белсампрамсаюзе ў 1927-28 годзе дасягала 60 проц. усяе закуплі супроць 46 проц. 1926-27 году.

Збытавая апэрацыя 4 саюзаў у 1927-28 годзе выказалася па продажнай цане ў суме 5.985.000 рублёў супроць 1.655.000 рублёў у 1926-27 годзе. Збытавой апэрацыяй пераважаў абутак, скураныя вырабы—26,3 проц., гатовае адзеньне і бялізна—16,7 проц., лесаматар'ялы—25,3 проц., смалапрадукты—9,2 проц Праз Белсампрамсаюз збытавая апэрацыя саюзу прайшла на 16,4 проц. усяе яе каштоўнасьці супроць 2 проц. у 1926-27 годзе. Валавое накладаньне саюзаў складала 4 проц. звароту, а чысты прыбытак 1,9 проц, звароту. Выдаткі павялічыліся супроць 1926-27 году ў абсалютнай суме, зьнізіўшыся ў адносіне звароту. У балянсах саюзаў на 1 кастрычніка 1928 году павялічылася ўдзельная вага ўласных сродкаў супроць 1 кастрычніка 1927 году. Грашовае становішча саюзаў дазваляе ставіць на вырашэньне пытаньне аб арганізацыі крэдытных аддзелаў саюзаў, што дасьць магчымасьць узмацніць тэмп акумуляцыі ўнутраных сродкаў сыстэмы і значна аздаравіць яе грашовую гаспадарку.

---

Крылавіцкі

## Асьветная работа каапэрацыі

Каапэрацыя Беларусі ўзяла на сябе функцыі шырокага абслугоўваньня насельніцтва, але ніякае культурнае работы не праводзіла. З месцня было ніякай ініцыятывы ў правядзеньні гэтай работы.

Шмат каапэрацыйных работнікаў лічылі, што каапэрацыя павінна абслугоўваць спажыўца толькі таварамі і што культработу павінны весьці прафсаюзы, культасьветустановы і г. д., і тады, калі атрымаліся „ножніцы" між бурным ростам каапэрацыі і культурным разьвіцьцём пайшчыкаў, тады каапэрацыйныя цэнтры заўважылі гэта, бо больш чакаць нельга было.

Да мінулага году на Беларусі ніякай культработы не праводзілася і толькі зараз пачынае нараджацца, сустракаючы значныя перашкоды на сваім шляху. Калі прапанавалася цэнтрамі каапсэтцы праводзіць культработу, то можна было пачуць адмаўленьне і словы: „гэта ня наша работа і да нас ніякага дачыненьня ня мае".

Каапактыў, якім зьяўляюцца ўпаўнаважаныя і кандыдаты, члены капэрацыйных камісій, практыканты, слухачы розных каапэрацыйных курсаў,

члены каапэрацыйных гурткоў і г. д., павінен стварыць культурную рэвалюцыю ў жыцьці каапэрацыі. Нельга сказаць, што культасьветная работа не праводзіцца; яна праводзіцца, але ёсьць на гэтым шляху непаразуменьні і пэсымістычныя настроі работнікаў у культрабоце.

Трэба назаўсёды зьнішчыць шкодны пэсымізм, трэба глядзець на каапэрацыю, як на масава-грамадзкую арганізацыю. Каапэрацыя павінна здавальняць патрэбы пайшчыкаў ня толькі таварамі, але і спрыяць уздыму культурнага ўзроўню пайшчыкаў.

Каапэрацыя—гэта адна з арганізацый, на долю якой прыпадае правядзеньне культасьветнай работы больш, чым якой-небудзь іншай, а калі гэта так, дык культасьветную работу, на якую сёлета траціцца шмат сродкаў, трэба праводзіць умеючы.

На вялікі жаль, у нас яшчэ ня шырока разгорнуты тыя ўстановы, дзе можна навучыцца. Пасьпяховы рост каапэрацыі можа быць забясьпечаны толькі на аснове разьвіцьця і замацаваньня каапэрацыйна-грамадзкай работы, шырокага разьвіцьця пралетарскай самакрытыкі і можа быць дасягнуты пры выстарчальным культурным узроўні.

Праблема культурнай рэвалюцыі зьяўляецца аднэй з практычных задач каапэрацыі. Культрэвалюцыя патрабуе максымальна пашырыць каапасьветработу і, галоўным чынам, падвысіць якасьць яе.

У сучасны момант каапасьветработа павінна быць пастаўлена так, каб увесь інструктарскі пэрсанал, як па рабочай сетцы, так і па нізавой, пры абсьледваньні работы тае або іншай каапэрацыйнай арганізацыі, зьвяртаў увагу на каапасьветработу. Парукаю пасьпяховага разьвіцьця асьветработы зьяўляецца актыўны ўдзел усяго каапактыву ў празядзеньні работы. Інструктаваньне каапактыву павінна праводзіцца праўленьнем каапэрацыйнай арганізаці, шляхам скліканьня нарад.

Вельмі цікавым зьяўляецца тое, што да апошняга часу нам ні ў якім разе няма магчымасьці дагаварыцца з прафарганізацыямі і ў прыватнасьці з ЦСПСБ аб увязцы асьветработы каапэрацыі з культасьветнай работай прафарганізацыі, ня гледзячы на тое, што ёсьць пастановы партыйных і прафэсіянальных зьездаў па гэтым пытаньні.

Характэрным зьяўляюцца разуменьне прафячэйкамі культмасавай работы спажыўкаапэрацыі. Мы маем прыклады, калі за сродкі спажыўкаапэрацыі арганізаваліся прафгурткі. Мы ня супроць прафгурткоў, але ўсё-ж на гэтую справу скарыстоўваць каапэрацыйныя сродкі, спэцыяльна адпушчаныя каапарганізацыямі на каапасьветработу, зьяўляецца недапушчальным.

Трэба сказаць, што каапэрацыйныя сродкі каапасьветработы часта трацяцца не па прызначэньню. Ёсьць прыклады, калі сродкі каапэрацыі перадаюцца іншым арганізацыям, іншыя вядуць гэтую работу, але няма выстарчальнага кантролю з боку каапэрацыйных арганізацый.

Гэта мае адносіны да ліквідацыі няпісьменнасьці. Шырокія каапэрацыйныя масы павінны ведаць, што, чым лепш пастаўлена каапасьветработа, тым лягчэй і лепш працуе каапэратыў.

Задачы каапэраваньня, збор паёў, асабліва цяпер, у сувязі з дыфэрэнцыяваным паем—шырокае поле работы, але ўсё гэта можна выканаць толькі тады, калі ўся маса будзе каапэрацыйна-пісьменная.

Каапасьветработа праводзіцца пераважна у парадку ўдарных кампаній, ад выпадку да выпадку, няўменьне часамі завастрыць найбольш важныя пытаньні, невыстарчальная падрыхтоўка і арганізацыя сходаў па каапэрацыйных пытаньнях.

Якое-ж становішча зараз з каапасьветработай, напрыклад, спажывецкай каапэрацыі?

Белкаапсаюз да апошняга часу ня меў спэцыяльнага штату для вядзеньня асьветработы. Толькі з гэтага году былі спэцыяльна запрошаны інструктары-асьветнікі амаль што ва ўсіх райсаюзах і аддзяленьнях. Акрамя таго зараз ужо ёсьць 5 інструктароў-асьветнікаў у спажыўтаварыствах, 3 куставых інструктары і 4 ў ЦРК. Трэба сказаць, што якасны склад інструктароў-асьветнікаў вельмі слабы, бо яны ў большасьці ня маюць практыкі каапэрацыйнай работы, а некаторыя з інструктароў-асьветнікаў ня маюць і агульнай выстарчальнай падрыхтоўкі.

Зараз асьветработа кіруецца як шляхам выезду інструктароў-асьветнікаў на месцы, так і дачай пісьмовых паказаньняў. На 1928-29 г. адлічана на правядзеньне культработы ўсяе сыстэмы спажыўкаапэрацыі. БССР ад прыбыткаў 274,4 тыс. руб., у каштарысным парадку 351 т. руб., усяго 625 т. руб., супроць мінулага году павялічана на 91 т. руб. Гэта хуткі рост параўнальна з попытам—але ўсё гэта кропля ў моры.

У 1927-28 г. каштарысы на выдаткаваньне асьветфонду *не складаліся* ні ў БКС, ні ў райсаюзах, не гаворачы ўжо аб спажыўтаварыствах. Сёлета каштарысы на выдаткаваньне асьветфондаў складзены і падрабязна распрацаваны БКС, райсаюзамі і ЦРК, але частка спажыўтаварыстваў і сёлета каштарысаў ня склала.

Для паляпшэньня і разьвіцьця работы па перападрыхтоўцы работнікаў нізавой сеткі пры БКС створаны цэнтралізаваны асьветфонд райсаюзаў і ЦРК.

Наогул можна сказаць, што каапасьветработа паступова заваёўвае сабе месца, як гэта відаць хоць бы з таго, што ў агульны плян работы каапэрацыйных арганізацый уключаецца таксама і плян асьветработы.

У адносінах да плянавасьці работы трэба пажадаць яшчэ шмат лепшага, бо ў некаторых мясцох гэтая плянавасьць адсутнічае.

У адносінах да курсава-гуртковай работы ёсьць дасягненьні, але недахопаў яшчэ больш. Галоўныя з іх: 1) адсутнасьць кваліфікаваных кіраўнікоў, 2) адсутнасьць падручнікаў і г. д. Усё-ж сёлета Белкаапсаюз арганізаваў 2-месячныя каапэрацыйныя курсы выключна для жаночага каапэрацыйнага актыву. Курсы гэтыя падрыхтавалі 33 каапэрацыйныя працаўніцы для вёскі, якія ужо працуюць у якасьці старшынь праўленьняў спажывецкіх таварыстваў, членаў праўленьня, загадчыкаў крам і арганізацыйнымі працаўнікамі. Гэта першая практыка масавага высоўваньня жанчын на каапработу ў вёсцы.

У галіне рабочай каапэрацыі былі курсы загадчыкаў сталовак ЦРК. Гэтыя курсы перападрыхтоўваюць таварышаў, з мэтай узьняць іх кваліфікацыю. Наогул усе курсы маюць асноўную мэту падняць кваліфікацыю, зрабіць слухачоў курсаў каапэрацыйна-пісьменнымі.

Факт склікаьньня 1-га ўсебеларускага зьезду жаночага каапэрацыйнага актыву спажыўкаапэрацыі БССР, актыўныя выступленьні ў спрэчках (па дакладу т. Наўлянскага выказаліся 68 чал.) гавораць аб тым, што асьветработа пачынае адчувацца.

У наступным нумары мы высьветлім пытаньне аб пляне курсавых мерапрыемстваў на 1928-29 г., аб рабоце каапэрацыйных школ і гурткоў, аб масавай каапасьветрабоце, падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы як платных, так і бясплатных работўнікаў каапэрацыі, аб вышэйшых каапэрацыйных навучальных установах і г. д.

**Садоўскі**

# Структура і задачы рэарганізаванага Беларускага дзярж. каапэрацыйнага тэхнікуму

Паглыбленая праца каапэрацыйных арганізацый па ўцягненьню новых пайшчыкаў, па іх актывізацыі,—па павялічэньню ўдзелу пайшчыкаў у працы каапэрацыі сіламі і сродкамі—першачарговая задача каапэрацыі. Выкананьне гэтага патрабуе ўсё новых і новых кадраў каапэратараў, усебакова-пісьменных і асабліва каап.-асьвечаных. Каго канкрэтна патрабуе зараз каапэрацыя? Па-першае, арганізатараў каапэрацыйнае справы на вёсцы—сяброў праўленьня, старшынь, куставых інструктароў, інструктароў-культурнікаў, рахункаводаў для сярэдніх і нават дробных таварыстваў, якія-б ня толькі ведалі разноску тых ці іншых апэрацый па кнігах, а ведаючы сутнасьць і значэньне каапэрацыі ў справе адраджэньня вёскі, былі арганізатарамі культурна-масавае каапэрацыйнае працы. З гэтага пункту гледжаньня працаўнік каапэратыву, незалежна ад сыстэмы каапэрацыі, павінен ня толькі сам яскрава ўяўляць, як каапэрацыя ўплывае на аграмаджваньне элемэнтаў сельскай гаспадаркі, а і сам правесьці практычную працу па аграмаджваньню сельскай гаспадаркі,па яе вытворчаму каапэраваньню, па яе калектывізацыі.

Апрача арганізацыйных працаўнікоў усе сыстэмы каапэрацыі маюць вялікую патрэбу ў працаўнікох апэрацыйных. Неабходны асноўным сыстэмам каапэрацыі закупшчыкі, працаўнікі магазынаў і загатоўцы сельска-гаспадарчай сыравіны. Неабходнасьць у гэтых працаўнікох выклікалася і выклікаецца тым, што часта апэрацыйная справа каапэрацыі знаходзілася ў руках не нашых элемэнтаў, элемэнтаў, якім чужымі зьяўляюцца задачы сацыялістычнага будаўніцтва,элемэнтаў,якія не парвалі яшчэ з прыватным гандлярствам,з нэпманамі і інш.Усучасны момант,калі Савецкая ўлада і каапэрацыйная грамадзкасьць рашуча паставілі пытаньне пазбавіцца ад вышэйпаданых элемэнтаў з тым, каб апэрацыйную справу каапэрацыі ўзяць у свае рукі, неабходнасьць падрыхтоўкі маладых кадраў апэрацыйных працаўнікоў для каапэрацыі паўстае ва ўвесь рост. Вось чаму каапэрацыйныя цэнтры БССР, разам з адпаведнымі дзяржаўнымі ўстановамі (Наркамасьветы, Дзяржплян і інш.) пастанавілі рэарганізаваць каапэрацыйны тэхнікум. Паводле пастановы гэтых арганізацый да сучаснага ўхілу тэхнікуму-арганізацыйнаму дадаецца апэрацыйны ўхіл у выглядзе адчыненьня пры тэхнікуме з наступнага 1929-30 навучальн. году тавараэнаўчага аддзяленьня, якое і павінна будзе рыхтаваць закупшчыкаў, працаўнікоў магазынаў і загатоўцаў сельска-гаспадарчай сыравіны ў нізавой вясковай кааапэрацыйнай сетцы. Толькі наліччa гэтых двух ухілаў у Беларускім дзяржаўным каапэрацыйным тэхнікуме зробіць гэтую ўстанову жыцьцёвай, напоўне адпавядаючай запатрабаваньням краіны, адпавядаючай чарговым задачам партыі і савецкай улады.

На падставе пастановы аб рэарганізацыі тэхнікуму ў паданым напрамку пэдрада тэхнікуму па прапанове Наркамасьветы пастанавіла прыняць наступную структурную арганізацыю тэхнікуму. Курс навучаньня у тэхнікуме трохгадовы—І курс агульна-адукацыйны і два спэцыяльных. Падзел па спэцыяльнасьцях пачынаецца з ІІ курсу, які і складаецца з трох аддзяленьняў—спажывецкай каапэрацыі, сельска-гаспадарчай каапэрацыі і тавараэнаўчага аддзяленьня. Такі-жа падзел на тры аддзяленьні застаецца і на ІІІ курсе.

Цэнтр увагі на аддзяленьнях спажывецкай і сельска-гаспадарчай каапэрацыі зварочваецца на арганізацыйна-апэрацыйны бок працы каапэрацыі, між тым як на тавараэнаўчым аддзяленьні цэнтр увагі аддаецца дасканаламу вывучэньню тавараэнаўства як з боку тэхнолёгічнага і хэмічнага, так і эканамічнага.

Асабліва важна пры будучых наборах у тэхнікум мець адпавядаючы кантынгент студэнтаў. Тут неабходна, каб тэхнікум камплектаваўся самымі каапэрацыйнымі арганізацыямі, як практычнымі працаўнікамі, так і каапэрацыйным актывам, выявіўшымі здольнасьці і жаданьне працаваць у каапэрацыі.

**Ваўкавіцкі**

# Што пастанавіла калегія НКРСІ па пытаньню барацьбы с растратамі

Калегія НКРСІ, заслухаўшы матар'ялы аб растратах, вынесла шэраг практычных каштоўных мерапрыемстваў па барацьбе з імі. Неадкладнае правядзеньне гэтых пастаноў у жыцьцё пры актыўным садзейнічаньні мясцовых партыйных і прафэсыянальных арганізацый, каапэрацыйнага актыву і масы пайшчыкаў, бязумоўна, надасьць магчымасьць дасягненьня рэальных вынікаў па барацьбе з растратамі.

Растраты ў сыстэме каапэрацыі ўвесь час працягваюць існаваць. Гэтае зло ўвесь час перашкаджае разьвіцьцю каапэрацыйнае гаспадаркі: растратчыкі, як чарвякі, падточваюць дабрабыт каапэрацыйнае гаспадаркі. З імі трэба вэсьці рашучую барацьбу і барацьбу пры тым штодзённую, а не кампанійскую.

Калегія НК РСІ зазначае, што, ня гледзячы на шматразовыя дырэктывы па барацьбе з растратамі, з боку каапэрацыйных арганізацый зьвернута зусім слабая ўвага на гэтае пытаньне, а з прычыны гэтага за апошні час наглядаецца рост растрат.

Гэтыя заўвагі, бязумоўна, правільныя і адпавядаюць сапраўднасьці. Праўленьні таварыстваў, рэвізійныя камісіі і мясцовыя арганізацыі недастаткова праводзілі працу па барацьбе з растратамі.

А пагэтаму ў пастанове РСІ яскрава зазначана, што барацьба з растратамі ня можа быць барацьбой толькі кампанейскай, а гэтая барацьба павінна праводзіцца штодзённа.

Калегія НК РСІ прапануе: у двухтыднёвы тэрмін праверыць запазычанасьць, якая лічыцца за living рознымі асобамі, і прыняць суровыя меры да спагнаньня і перадачы суду несваечасовых платнікаў. У далейшым мець сыстэматычны нагляд за становішчам запазычанасьці. Для выкананьня гэтага праўленьням і рэвізійным камісіям трэба неадкладна ўзяцца за гэтую працу, прапанаваць усім зьвярнуць запазычанасьць, даўшы ім для гэтага цьвёрды тэрмін, а ў адмоўным выпадку безакладна справы перадаваць у суд.

Забараніць выдачу авансаў на асабовыя патрэбы. Авансы на камандыроўкі павінны адпавядаць сапраўднай неабходнасьці. Тыя, якія трымаюць авансы, павінны не пазьней 5 дзён пасьля сканчэньня апэрацыі пад асабістую адказнасьць даваць справаздачу. Рэшты не выдаткаванае сумы павінны быць здадзены не пазьней трех дзён пасьля сканчэньня адпаведнай апэрацыі.

Бухгальтэрыі, пад асабовую адказнасьць галоўбуха і кіраўнікоў рахункаводзтвам, загадаць праглядаць справаздачы аб авансах неадкладна і ня толькі з пункту погляду арытмэтычнае правільнасьці, але і з пункту погляду адпаведнасьці патрабаваньням законаў і аб усялякіх іх парушэньнях паведамляць у органы РСІ.

Загадчыкі магазынаў ЦРК, спажывецкіх таварыстваў павінны штодзённую сваю выручку здаваць у цэнтральную касу і ні ў якім выпадку не дапушчаць, каб загадчыкі і касіры пакідалі выручаныя грошы ў сябе альбо ў магазынах ці крамах.

Белкаапсаюзу прапанавана ў двухтыднёвы тэрмін распрацаваць інструкцыю па пытаньню здачы выручкі ў сельскай каапэрацыйнай сетцы.

Каапэрацыйныя цэнтры павінны распрацаваць каляндарныя пляны рэвізій, якіх павінны трымацца рэвізыйныя камісіі.

Адначасова прапанавана Наркам'юсту ўзмацніць нагляд за сваечасовым сьледзтвам па справах растрат і ўжыць меры да хуткага іх разгляду. Апрача таго, Наркам'юст павінен улічваць неабходнасьць стварэньня на мясцох працэсаў па больш буйных растратах, зьбіраючы вакол гэтага грамадзкую думку.

Даць адпаведныя дырэктывы месцам аб неабходнасьці сваечасовага спагнаньня сум па выканаўчых лістох, не дапушчаючы цяганіны і прымаючы суровыя меры да тых судовых выканаўцаў, якія гэта ствараюць. Неадкладна распрацаваць пытаньні аб прыцягненьні да спагнаньня даўгоў, органаў міліцыі на месцах. Асабліва жорсткую барацьбу трэба весьці супроць захаваньня растрат, што наглядаецца з боку шэрагу кіраўнікоў гаспадарчых і каапэрацыйных органаў.

Катэгарычна да 15 ліпеня скончыць усе справы па растратах, якія ўзьніклі да студзеня 1929 году. Узмацніць карную палітыку ў адносінах растратчыкаў і ні ў якім разе не дапушчаць яе паслабленьня.

Гэтыя прапановы маюць вялізарнае значэньне. Да гэтага часу становішча было такое, што справы па растратах разглядаліся несваечасова. Маецца шмат выпадкаў, калі справы па растратах разглядаліся с зацяжкаю на тры гады, у выніку чаго яны гублялі сваё значэньне, і растратчыкі вызваляліся ад кары.

Далей прапанавана каапэрацыйным цэнтрам пры выяўленьні растрат у тым альбо іншым каапэрацыйным органе даць у сувязі з гэтым ацэнку працы кіраўніцтва і, пры наяўнасьці нядбайных адносін з іх боку, а таксама і з боку РК, рабіць адпаведныя арганізацыйныя вынікі і побач з растратчыкамі прыцягваць да адказнасьці кіраўнікоў.

Інструктарскаму складу і рэвізійным камісіям пры заключэньні па гадавой справаздачы адзначыць ступень ужытых мер да зьнішчэньня папярэджаньня і спагнаньня растрат, а пры адсутнасьці гэтых мер прызнаваць працу адпаведнага органу нездавальняючай.

Улічваючы вялізарнае значэньне працы РК у галіне паляпшэньня гаспадарчае працы каапэрацыйных органаў, лічыць неабходным арганізаваць паміж больш буйнымі рэвізыйнымі камысіямі сацыялістычнае спаборніцтва.

Вось асноўныя мерапрыемствы, якія дадзены РСІ ў галіне барацьбы з растратамі. З гэтымі мерапрыемствамі павінны быць азнаёмлены ўсе працаўнікі каапэрацыі і каапэрацыйны актыў. На спэцыяльных нарадах актыву і працаўнікоў яны павінны быць дэтальна распрацаваны. Трэба жалезнаю мятлой выгнаць усіх растратчыкаў.

Увесь каапэрацыйны актыў, уся маса пайшчыкаў і працаўнікоў павінны рашуча ўзяцца за барацьбу з гэтым каранным злом нашае работы і зьнішчыць яго.

Адзінцоў

# Каапэрацыя інвалідаў Беларусі

Думка аб стварэньні каапэрацыі інвалідаў Беларусі ўзьнікла яшчэ ў 1921 годзе. І ў тым-жа годзе яна ператварылася ў сапраўднасьць. З першага пачатку былі арганізаваны некалькі пробных працоўных арцеляй, тыпу перанавучальных прадпрыемстваў, якія знаходзіліся непасрэдна ў веданьні Наркамсацзабясьпекі. Потым было ўстаноўлена, што працаўпарадкаваньне інвалідаў у рознага роду прадпрыемствах зьяўляецца аднэй з самых рацыянальных форм сацыяльнага забесьпячэньня, так як дзякуючы гэтай меры дасягаліся тры мэты: інвалід зьвяртаўся ў тую працоўную сям'ю, ад якой ён быў адарваны сваёй інваліднасьцю, затым паляпшалася яго матар'яльнае становішча, і нарэшце, аблягчаўся бюджэт дзяржавы, бо каапэрыраваныя інваліды зьнімаліся з дзяржаўнага забесьпячэньня.

І толькі ў 1923 годзе быў арганізаваны цэнтр Беларускай каапэрацыі інвалідаў Белкаапінсаюз, які канчаткова аформіўся ў 1924 годзе пасьля ўзбуйненьня Беларусі і паставіў сваёй мэтай—арганізавацыю каапэраваньня інвалідаў ў плянавым парадку.

Лепшая частка інвалідаў, у большасьці інваліды грамадзянскай вайны, перш-наперш пайшлі насустрач пачынаньням у справе арганізацыі аб'яднаньняў інвалідаў і навучэньня іх саміх кваліфікацыі. У зьвязку з чым ужо з пачатку 1923 г. налічвалася каапэраваных інвалідаў 200 чалавек, а ў канцы 1925 году 424 чал.

Такім чынам, лік каапэраваных інвалідаў з кожным годам узрастаў і на 1/X-28 г. складаў колькасьць каапэраваных інвалідаў у 1289 чалавек, павялічэньне ў параўнаньні з 1925 г. на 312, 7 проц. Рост да папярэдняга году быў наступны: 1926 г.—144,5 проц., 1927 г.—146,1 проц. 1928 г.—142,7 проц. Усяго разнахарактарных вытворчых і гандлёвых аб'яднаньняў інвалідаў налічвалася па ўсёй Беларусі на 1/X-25 г. і 1/X-28 г.—80. Стабілізацыя агульнай колькасьці аб'яднаньняў тлумачыцца тым, што за гэты пэрыод была ўзята стаўка не на павялічэньне ў колькаснай адносіне, а на пашырэньне, шляхам зьліяньня аднолькавых па характару вытворчасьці у больш буйныя.

Выпрацоўка прадукцыі ў 1926-27 годзе па ўсёй сістэме складала агульную суму па сабекаштоўнасьці ў адпаведных цэнах у 2.423 тыс. р., а ў 1927-28 г.—3.918 тыс. р. Выпрацоўка на аднаго рабочага у цэнзавых прадпрыемствах павялічылася з 3,4 тыс. р. у 1926-27 г. да 4,9 тыс. р. у 1927-28 г.

У агульнай суме звароту павялічана удзельная вага звароту за лік уласнага вырабу з 46,1 проц. у 1926-27 г. да 67,8 проц. у 1927-28 г., і адначасова зьменшана ўдзельная вага па перапродажы тавараў з 53,9 проц. да 32,2 проц.

Грашовае становішча сыстэмы характарызуецца наступным чынам: рост зьведзенага балянсу з 1075 т. р. на 1/X-27 г. да 1695 т. р. на 1/X-28 г., ці на 68,1 проц.; зваротны фонд з 823 т. р. да 1284 т. р., ці на 56 проц. Уласныя сродкі у 1927-28 г. павялічыліся ў параўнаньні з 1926-27 г. на 69 проц. Чысты прыбытак у 1927-28 г. выказваецца ў суме 256.956 р. і складае да агульнага звароту 3,2 проц. супроць 0,9 проц. у 1926-27 г.

Паявы капітал складае на 1/Х-28 г. суму ў 94 т. р., супроць 47 т. р. на 1/Х-26-27 г.—павялічэньне на 200 проц, а ў сярэднім на аднаго сябра павялічыўся з 59 р. 20 к. да 72 р. 90 к., ці на 27,8 проц.

Разам з павялічэньнем выпрацоўкі і правядзеньнем цэлага шэрагу мерапрыемстваў па рацыяналізацыі гаспадарчай дзейнасьці значна паніжана сабекаштоўнасьць па усіх відах вытворчасьці, напрыклад: сабекаштоўнасьць гарнітуру па адпускных цэнах у 1926-27 г. была 31 р. 65 к., а у 1927-28 г. —26 р. 07 к., паніжэньне складае 18 проц., у такой жа меры паніжаны цэны і па іншых галоўных вытворчасьцях.

З ростам гаспадарчай дзейнасьці сыстэмы палепшылася і матар'яльнае становішча каапэраваных інвалідаў, зарплата ў сярэднім павялічылася з 50 р. у 1925 г. да 63 р. у 1927-28 г., асабліва па вытворчых арцелях—з 41,6 да 62,5 руб. Палепшана і павялічана дапамога з боку кас узаемадапамогі, якія ня толькі дапамагаюць на выпадак часовай хваробы, радоў і сьмерці, але і ставяць сваёй мэтай пасылку сяброў арцелі ў дамы адпачынку і на курортнае лячэньне. Пасылкі ў дамы адпачынку і на курортнае лячэньне праз касы ўзаемадапамогі ў бягучым годзе павінны ахапіць да 25 проц. усіх каапэраваных інвалідаў.

У далейшы час па пяцігадоваму пляну рост гаспадарчай дзейнасьці прадугледжваецца ў наступным памеры: колькасьць аб'яднаньняў будзе даведзена да 217, з іх 159 вытворчых, 32 сельска-гаспадарчых і 26 гандлёвых. У ліку вытворчых арцеляй будзе арганізавана 47 цэнзавых аб'яднаньняў, супроць 14, колькі налічвалася на 1/Х-28 г., гэта значыць, што пры арганізацыі прадпрыемстваў будзе ўзяты курс, галоўным чынам, на пашырэньне і механізацыю гэтакіх.

Колькасьць каапэраваных павялічыцца да 4392 чал., з іх 3802 чал. будзе занята ў вытворчых прадпрыемствах, 365 чалавек у сельска-гаспадарчых і 230 чал. у гандлёвых.

Выпрацоўка прадукцыі сваіх уласных вытворчых прадпрыемстваў у канцы пяцігодкі будзе складаць па адпаведных цэнах сабекаштоўнасьці суму—16.127,6 т. р., сельска-гаспадарчых—352,8 т. р., а ўсяго—16.480,4 т. р., павялічэньне ў параўнаньні з 1927-28 г. на 311,3 проц.

Валавы зварот па продажных цэнах тавараў свайго вырабу, купленых для перапродажу, складае суму 19.820 т. р.—павялічэньне ў параўнаньні з 1927-28 г. на 326,8 проц.

Зьніжэньне прадажнай каштоўнасьці да канца пяцігодкі па галоўных групах вытворчасьці прадугледжваецца ў наступным памерах:

| | | | |
|---|---|---|---|
| скураная-абутковая | выторчасьць | на | 21,6 проц. |
| кравецка-шапачная | " | " | 25,6 " |
| каўбасная | " | " | 17,1 " |

Агульная сума сводная балянсу складаць будзе суму ў 4969 тыс. р., у такой жа суадносіне павялічацца па балянсу і свае ўласныя сродкі.



# ПРАКТЫКА НАШАЕ ПРАЦЫ

К. Мадзалеўскі

## Саматужна-мастацкая вытворчасьць сампрам-каапэрацыі

Саматужна-мастацкая вытворчасьць на Беларусі была значна пашырана, але за час вайны і акупацыі зусім заняпала, а паасобныя яе промыслы нават спынілі існаваньне.

Так, напрыклад, зараз зусім няма вытворчасьці дываноў, між тым, як гэты промысел быў значна пашыраны, і нават ёсьць весткі, што раней на Беларусі выраблялiся ня толькі дываны-келіны, а і гобэлены. Пашыраліся перад імпэрыялістычнай вайной і вырабы з саломкі ў выглядзе паўфабрыкату, якія былі прадметам экспарту.

Улічваючы ўсё гэта і тыя магчымасьці, якія ёсьць у мэтах павялічэньня заробку местачковай і вясковай беднаты, СНК БССР у кастрычніку 1927 году даў дырэктывы аднавіць, разгарнуць і ўдасканаліць саматужна-мастацкую вытворчасьць на Беларусі.

У маі 1928 году была арганізавана ў вёсцы Лошніца, Барысаўскага раёну, 1-ая ткацкая арцель па вырабу мастацкіх тканін у складзе 20 асоб. У хуткім часе такія самыя арцелі былі арганізаваны ў вёсцы Высоцкае на Аршаншчыне, у вёсцы Палынкавічы на Магілеўшчыне і ў вёсцы Хідра на Меншчыне.

Зараз-жа пасьля арганізацыі ткацкіх арцеляй паўстала пытаньне аб абсталяваньні іх удасканаленымі кроснамі і забесьпячэньні чаўнакамі, бёрдамі і рамізамі, бяз чаго іх праца ня можа быць рэнтабэльнай. Часткова Лошніцкая, Халіпянская, Высоцкая і Палынкавіцкая арцелі ўжо забясьпечаны гэтым абсталяваньнем. Набыць на Беларусі ўсе неабходныя прылады няма магчымасьці.

Пасьля шэрагу розных перашкод і цяжкасьцяй былі арганізаваны фарбоўная арцель і майстэрня.

Дасюль ткацкія арцелі выраблялі мэтравыя ўзорныя тканіны з беларускімі ўзорамі і беларускія пояскі. Цяпер прызналі мэтазгодным, у мэтах экспарту, вырабляць у розных памерах каляровыя ўзорныя абрусы, сарвэткі і заслоны. Асартымэнт ткацкіх вырабаў будзе папоўнены яшчэ ўзорнымі абрусамі, сарвэткамі і рушнікамі (белымі), выраб якіх дагэтуль затрымоўваўся з прычыны тэхнічных перашкод.

Зараз у ткацкіх арцелях, якія працуюць з мастацкім ухілам, занята звыш 100 ткачых, а згодна з вытворчым плянам, да 1 кастрычніка вызначана ўцягнуць яшчэ каля 200 асоб. Калі арцелі пачнуць працаваць з поўнай нагрузкай, месячная іх прадукцыя будзе складаць прыблізна каля 25 т. рубл.

Вырабы арцеляй разьлічаны, галоўным чынам, на экспарт, аднак, улічваючы попыт на кашулю, вышытую ў беларускім стылі, мяркуецца паставіць некалькі кросен па вырабу тканіны з укройкам у беларускім стылі накшталт вышыўкі. Ручная вышыўка надта дарагая і робіць кашулю недаступнаю для шырокіх мас, між тым, як вытканы ўзор каштуе значна танней. Зробленая спроба дала добрыя вынікі, і такі адрэз на кашулю каштуе менш, чым 4 рублі.

Другім промыслам, які мае экспартнае значэньне і ўсе магчымасьці, каб быць пашыраным на Беларусі, зьяўляецца вышывальны промысел. Першая

спроба разьвіцьця гэтага промыслу была зроблена ў канцы 1928 г., але хутка высьветлілася цяжкасьць яго існаваньня з прычыны нездавальняючае аплаты працы і неабходнасьці траты амаль паловы яе на выдаткі па супольных майстэрнях. Гэта штурхнула на вывучэньне пастаноўкі гэтага промыслу на Украіне, ў выніку чаго было вырашана арганізаваць гэты промысел па яе ўзору, г. зн., перакінуць работу выключна на вёску, падрыхтаваць адукаваных вышывальніц з дапамогаю каротка-тэрміновых курсаў і ў далейшым будаваць вытворчасьць ня ў супольных майстэрнах, а на даму.

Шмат супольнага з ткацтвам і з вытворчасьцю беларускіх паяскоў мае дывановая вытворчасьць. У сэнсе сыравіны, якая неабходна для гэтага промыслу, складае памысныя ўмовы звычайная воўна і лён-Беларусь.

Абсталяваньне для гэтага промыслу каштуе нядорага. Затрыманьне ў арганізацыі толькі ў тым, што ў Менску няма патрэбных фарб. Згодна з вытворчым плянам мяркуецца падрыхтаваць і ўцягнуць у гэты промысел каля 150 асоб.



Бабруйская белашвейная арцель „Аб'яднаная работніца“

У мэтах далейшага паляпшэньня вырабаў з асінавае стружкі з дапамогаю Белдзяржгандлю набыты ўзор чэха-славацкай тканіны з асінавае стружкі. У Глускай арцелі не маглі выткаць такое тканіны з прычыны таго, што не маглі даведацца, які матар'ял апроч асінавае стружкі ўжываецца пры яе вырабе. Зараз гэта выкрываецца шляхам хэмічнага аналізу.

Што датычыцца ганчарных вырабаў, дык у сучасны момант зьвернута ўвага, галоўным чынам, на Барысаўскую арцель. Ёй дадзена заданьне наладзіць муфельную вытворчасьць, надаць вырабам беларускі стыль, зьмяніць ужо застарэлыя мадэлі. У апошні час на Бабруйшчыне арганізавалася арцель па вырабу шкатулак, табакерак, рамак і інш. дробных рэчаў. Вырабы гэтыя трэба значна палепшыць, каб яны набылі мастацкае значэньне.

Чарговаю задачаю ў справе разьвіцьця мастацкіх промыслаў на Беларусі зьяўляецца мастацкая апрацоўка дрэва.

**Валіцкі**

# Прамысловая каапэрацыя Гомельшчыны і Мазыршчыны

Рост сыстэмы. Гомельскі Сампрамсаюз, з раёнам дзейнасьці Гомельскай і Мазырскай акруг, арганізаваны ў канцы 1926-27 г. Частка арцеляй, якія існавалі да арганізацыі саюзу і лічыліся на 1/X-27 г., потым разваліліся, бо іх нельга было аздаравіць і ўвесьці ў сыстэму. Рост арцельнага зьвенчаку пашоў шпаркім тэмпам і яшчэ ня скончыўся ў 1927-28 г. За першае паўгодзьдзе бягучага апэрацыйнага 1928-29 г. лік членаў арцеляй павялічыўся з 2924 да 4085, г. зн., на 40 проц.

| ДАТА | Гомельская акруга | | | Мазырская акруга | | | Усяго | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Кольк. арцел. | Кольк. членаў | % % | Кольк. арцел. | Кольк. членаў | % % | Кольк. арцел. | Кольк. членаў | % % |
| На 1/X-1927 г. | 40 | 876 | 100 | 6 | 204 | 100 | 46 | 1080 | 100 |
| На 1/IV-1928 г. | 68 | 1718 | 193 | 20 | 509 | 250 | 88 | 2227 | 206 |
| На 1/X-1928 г. | 104 | 2039 | 233 | 35 | 885 | 437 | 139 | 2924 | 270 |

Горад, мястэчка і вёска. Характэрнай рысай Гомельскага сампрамсаюзу зьяўляецца наяўнасьць вялікага вясковага сэктару ў сваім арцельным зьвенчаку.

На 1/4 члены арцелі па месцу работы разьмяркоўваліся наступным чынам:

| НАЗВА ПРОМЫСЛАЎ | Агул. кольк. | Горад | Мяст. | Вяск. | Беларусаў | Яўрэяў |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Шавецка-загатоўч. | 906 | 303 | 578 | 25 | 267 | 598 |
| Скураны | 52 | 30 | 22 | — | 1 | 29 |
| Аўчынны | 94 | — | 94 | — | 25 | 69 |
| Швейны | 389 | 186 | 195 | 8 | 25 | 264 |
| Мэталяапрацоўчы | 102 | 74 | 23 | 5 | 28 | 84 |
| Дрэваапрацоўчы | 945 | 60 | 35 | 850 | 842 | 103 |
| Смалакураны | 124 | — | — | 124 | 19 | 105 |
| Пянька-прадзільны | 226 | 18 | 160 | 48 | 206 | 20 |
| Панчошна-трыкатажны | 125 | 72 | 53 | — | 5 | 120 |
| Мойка рызьзя | 498 | — | — | 498 | 447 | 51 |
| Ткацкі | 26 | 26 | — | — | 26 | — |
| Харчовы | 77 | 71 | 6 | — | — | 77 |
| Цагельны | 98 | — | 15 | 83 | 78 | 20 |
| Рыбны | 262 | 10 | 37 | 215 | 243 | 19 |
| Розны | 117 | 117 | — | — | 23 | 114 |
| Хэмічны | 44 | 44 | — | — | — | 44 |
| Усяго | 4085 | 1011 | 1218 | 1856 | 2235 | 1717 |

Рост арцеляй на недыфіцытнай сыравіне. Націск на арганізацыю арцеляй, што працуюць на дэфіцытнай сыравіне, саюзам затрымліваўся, у выніку чаго на 1/4 у арцелях, якія працуюць на дэфіцытнай сыравіне (кравецкая, шавецкая і панчошна-трыкатажная) налічваецца 1365 чал., г. зн., 35 проц. агульнага ліку ўсіх членаў арцеляй. Рэшта—65 проц. працуе на мясцовай недэфіцытнай сыравіне.

За час існаваньня саюзу ў раёне яго дзейнасьці арганізаваны наступныя новыя промыслы: смалакураны, па пляценьню кошыкаў, аўчына-футравы, цагельны, канчаецца пабудова каніфольнага заводу, прыступлена да

арганізацыі промыслу па выганцы драўлянага сьпірытусу і г. д. Вялікае разьвіцьцё. асабліва за апошні час, у сыстэме саюзу атрымалі дрэваапрацоўчыя промыслы. На 1 красавіка члены арцелі, занятыя ў дрэваапрацоўчых вытворчасьцях, складалі 26 проц. агульнага ліку членаў. Выкарыстоўваюцца ўсе віды драўніны, выпрацоўваюцца абады, колы, прылады да хурманак, бочкі, кошыкі, паганялкі для тэкстыльных фабрык, шавецкія калодкі і г. д.

У цагельных арцелях, арганізаваных толькі ў бягучым годзе, зараз занята 250 чал Прадукцыйнасьць за бягучы год у цагельных арцелях выявіцца ў 8 міл. штук цэглы.

Прадукцыя арцеляй. Гатовая прадукцыя арцельнага зьвенчаку за 1927-28 г. па Гомельскай акрузе склала 2.182,2 тыс. руб., а па Мазырскай акрузе—1.490,1 тыс. руб., усяго па абедзьвюх акругах—3.678,3 тыс. руб.

За першае паўгодзьдзе бягучага 1928-29 г. выпрацаваная прадукцыя арцеляй Гомельскае акругі па справаздачных няпоўных вестках склала 2.159,8 тыс. руб., па Мазырскай акрузе—1.348,3 тыс. руб., усяго да 10 міл. р.

Заробак членаў арцелі. Усе арцелі, дзе ўмовы дазваляюць, працуюць у агульных майстэрнях. Частка промыслаў пераведзена на падзел працы. Заробак членаў арцелі нармуецца з арыентыроўкай на заробак рабочых дзяржаўнай прамысловасьці адпаведных промыслаў. За першы квартал заробак членаў арцелі па паасобных промыслах вызначаецца:

| НАЗВА ПРАМЫСЛАЎ | Сярэд. зар. | Мак ымал. зар. | Мінімальн. зар. |
|---|---|---|---|
| Кравецкі | 80 | 160 | 30 |
| Шавецкі | 55 | 150 | 40 |
| Мэталяапрацоўчы | 100 | 150 | 40 |
| Лесапрамысловы | 32 | — | — |
| Смалакураны | 80 | — | — |
| Мойка рызьзя | 40 | 50 | 20 |

Фінансавае становішча арцеляй. На I/X-28 г. арцельны зьвянчак меў паявых капіталаў—148.845 руб., прыбытак за 1927-28 год склаў 148.656 руб.

На I/IV-1929 г. паявыя капіталы арцелі склалі 218.118 р., а прыбытак бягучага году—126.358 руб. Па паасобных промыслах і акругах паявыя ўзносы і прыбытак на I/X-1928 г. разьмяркоўваліся:

| НАЗВА ПРОМЫСЛАЎ | Прыбытак за 1927-28 г. | | | Паявыя ўзносы | | | На 1 паяв. узнос | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Гомель | Мазыр | Усяго | Гомель | Мазыр | Усяго | Гомель | Мазыр |
| Кравецкі | 29000 | 4560 | 33560 | 20688 | 5644 | 26432 | 79 | 60 |
| Шавецкі | 18810 | 10173 | 28983 | 21918 | 10706 | 32624 | 59 | 52 |
| Лесапрамысл. | 37000 | 7920 | 44920 | 17415 | 12125 | 29540 | 57 | 62 |
| Смалакураны | 1897 | 68 | 1965 | 4017 | 841 | 14918 | 238 | 140 |
| Хэмічны | 4891 | — | 4891 | 4200 | — | 4200 | 210 | — |
| Харчовы | 2068 | — | 2068 | 6470 | — | 6470 | 122 | — |
| Камбінаты | 10395 | 11705 | 22708 | 1523 | 1996 | 3519 | 3 | 19 |
| Мэталяапрац. | 3898 | 1863 | 5761 | 7965 | 1800 | 9765 | 180 | — |
| Пянька-прадз. і панчошна-трык. | 3380 | — | 3380 | 7977 | — | 7976 | 71 | — |
| Розныя | 1028 | — | 1028 | 3400 | — | 3400 | 189 | — |
| Усяго | 112367 | 36289 | 148656 | 105663 | 33212 | 143845 | -- | — |

5,1 проц. 2,4 проц. (да зварот. гатовых вырабаў)

На I/IV-1929 г. паявыя капіталы і вынікі па асобных промыслах разьмяркоўваліся:

| | Гомельская | | Мазырская | | Усяго | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Паёў | Вынікі | Паёў | Вынікі | Паёў | Вынікі |
| Кравецкія | 25326 | 25465 | 8713 | 6390 | 34039 | 31855 |
| Шавецкія | 32382 | 16440 | 14696 | 13862 | 47078 | 30302 |
| Дрэваапрацоўч. | 15274 | 12500 | 12942 | 21304 | 28216 | 33814 |
| Панчошна-трык. | 6879 | 2733 | 1739 | — | 8697 | 2733 |
| Канатна-вяроўч. | 252 | 5635 | — | — | 2521 | 5635 |
| Скур. і аўчын. | 4054 | 1752 | 2034 | — | 6093 | 1752 |
| Харчовыя | 15449 | 5283 | 500 | — | 15949 | 5283 |
| Рымарныя | 2780 | 476 | 2560 | 467 | 5398 | 943 |
| Ткацкія | 2200 | 845 | — | — | 2200 | 845 |
| Мэталяапрацоўч. | 8888 | 2977 | 4290 | 115 | 13178 | 3092 |
| Хэмічныя | 7168 | 3214 | — | — | 7168 | 3214 |
| Смалакураныя | 19067 | 1659 | 6386 | 337 | 25453 | 1996 |
| Іншыя | 9436 | 4891 | 5736 | — | 15172 | 4891 |
| Усяго | 137679 | 33870 | 53860 | 42474 | 218118 | 126358 |

У другім квартале бягучага году амаль ва ўсіх арцелях праведзены дыфэрэнцыяваны дадатковы паявы ўзнос у разьмеры месячнага акладу, які будзе выплачвацца штомесячнымі адлічэньнямі ад зарплаты.

Крэдытна-прамысловыя таварыствы. На I/X-1927 г.:

У Гомельскай акрузе членаў таварыства . . . . . . . 2852
У Мазырскай „ „ „ . . . . . . . . 1972
Усяго . . . . . 2424 чалавекі

На I/X-1928 г.:

У Гомельскай акрузе . . . . . . . . . . . . . . . . . 3584 чал.
У Мазырскай „ . . . . . . . . . . . . . . . . 2440 „
Усяго . . . . . 5824

Усе ўласныя сродкі таварыства паказваюць наступны рост:

На I/X-1927 г.

У Гомельскай акрузе . . . . . . . . . . . . . . . . 47000
У Мазырскай „ . . . . . . . . . . . . . . . 30000
Усяго . . . . . 77000

На I/X-1928 г.

У Гомельскай акрузе . . . . . . . . . . . . . . . . 102000
У Мазырскай „ . . . . . . . . . . . . . . . 64000
Усяго . . . . . 166000

Абслугоўваньне саматужнікаў-адзіночак грашовым крэдытам стала займаць меншае месца ў рабоце таварыстваў і адпаведна павялічылася роля таваразабясьпечваючых апэрацый. За 1926-27 г. таварыствамі Гомельскае акругі набыта тавараў: на 275,3 тыс. руб.
Мазырскае акругі „ „ на 227,3 „ „
а за 1927-28 г. таварыствамі Гомельск. акругі . . . . — 510,2 тыс. руб.
а Мазырскае акругі . . . . . . . . . . . . . . . — 524,7 „ „
Усяго за 1926-27 г.—на 512 тыс. руб.
„ па Гом. і Маз. 1044,2 тыс. руб.

Вялікае месца ў дзейнасьці таварystваў займала работа па арганізацыі арцеляй: пры ўступленьні ў арцель таварыствы выдавалі пазыкі сваім членам на ўнясеньне паю.

Узбуйненьне крэдытна-прамысловых таварystваў. Сёлета саюз злучыў Людзяневіцкае і Жыткавіцкае таварыствы і далучыў Холмецкае і Горвальскае таварыствы да Рэчыцкага. Самастойнае існаваньне паказаных таварystваў сябе не апраўдала: яны кепска абслугоўвалі сваіх членаў і ў сваёй рабоце былі дэфіцытныя. Узбуйненьне таварыства сябе апраўдала.

Упарадкаваньне мястэчак. За мінулы год ў раёне саюзу ўпарадкаваліся 2 мястэчкі—Капаткевічы ў Мазырскай акрузе і Уваравічы ў Гомельскай акрузе. Па м. Уваравічы дзяржупарадкаваньне праводзілася пераважна па лініі земляўпарадкаваньня, а па арганізацыі саматужных промыслаў трэба было арганізаваць 3 арцелі: шавецкую ў 25 чал., кравецкую ў 10 чал. і кавальскую ў 7 чал., усяго 42 чалавекі.

Пры правядзеньні пляну кравецкая і кавальская арцелі па мясцовых умовах аказаліся няжыцьцёвымі, і замест іх саюз арганізаваў адну арцель па выпрацоўцы цэглы. Усяго ў арцелях м. Уваравічы працуе да 50 чал.

Цяпер у арцелях м. Капаткевічы працуе: шавецкая арцель—62 чал., кравецкая—18 чал., смалакураная—7, аўчынная—19, усяго—106 чал.

Звароты саюзу. Адпаведна з ростам сыстэмы, рост і звароты самога саюзу характарызуюцца наступнымі данымі:

1926-27 г.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 кв. . . . . . . . | — 459.206 | 2 кв. . . . . . . . | — 884.204 |
| 3 кв. . . . . . . . | —1.249.196 | 4 кв. . . . . . . . | —1.808.638 |

1928-29 г.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 кв. . . . . . . . | —1.644.782 | 2 кв. . . . . . . . | —2.171.642 |

Такі рост звароту магчымы быў толькі пры моцнай цэнтралізацыі апэрацый арцельнага зьвенчаку, прыцягненьня сродкаў з боку, шляхам атрыманьня авансаў і канцэнтрацыі ў саюзе вольных сродкаў у больш грашова-моцных арцелях і іх пераразьмеркаваньне.

---

Камлач

# Пабудова нармальнае сеткі сампрамсаюзаў Беларусі

У сучасны момант па справаздачных, дадзеных на 1 студзеня 1929 г., нізавая сетка прамысловае каапэрацыі Беларусі налічвае 742 арцелі і 92 крэдытна-прамысловыя таварыствы, якія абслугоўваюцца 5 зьвенчакамі 2-е ступені, на чале якіх стаіць Белсампрамсаюз, як арганізацыя 3-е ступені. Саюзная сетка 2-е ступені супадае з адміністрацыйным раёнам акругі ў адных выпадках і ахапляе па 2 акругі ў другіх, як, напрыклад, Гомельскі саюз ахапляе Гомельскую і Мазырскую акругу, Віцебскі—Віцебскую і Полацкую акругу, Менскае аддзяленьне БСПС—Менскую і Аршанскую акругу, Магілеўскі і Бабруйскі саюзы працуюць у межах аднае акругі.

У апошні час з боку мясцовых арганізацый Менскае, Аршанскае, Полацкае і Мазырскае акругі ўзмоцнена ставяцца пытаньні аб арганізацыі ў гэтых акругах прамысловых саюзаў, даводзячы гэта дастатковым разьвіцьцём прамысловае. сыстэмы акругі і недастатковым абслугоўваньнем з боку прамсаюзаў. Мы лічым неабходным спыніцца на гэтым пытаньні і шэрагам фактаў давесьці, ці правільны гэтыя патрабаваньні, ці маецца для гэтага эканамічная і грашовая база?

## Агульная колькасьць саматужнікаў

Калі ўзяць агульную колькасьць саматужнікаў Беларусі па вестках ЦСК, то яны распадаюцца па акругах такім чынам:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Менская | акруга | 18875 | 20,1% |
| Гомельская | „ | 12995 | 13,9% |
| Віцебская | „ | 11192 | 12,0% |
| Бабруйская | „ | 15702 | 16,7% |
| Магілеўская | „ | 13624 | 14,5% |
| Аршанская | „ | 7233 | 7,7% |
| Полацкая | „ | 7714 | 8,2% |
| Мазырская | „ | 6427 | 6,9% |

Гэтая табліца, нават пры беглым аглядзе, даводзіць, чаму такія акругі, як Аршанская, Полацкая і Мазырская, ня маюць прамсаюзаў. Гэта дыктуецца эканомікаю саматужнай прамысловасьці памянутых акруг, бо пры наяўнасьці 7-мі альбо 8-мі тысяч саматужнікаў у акрузе нельга разьлічваць на пабудову саюзу, калі прыняць пад увагу, што процант каапэраваньня на сёньняшні дзень складае 25—30 проц. агульнага ліку. Апрача таго, трэба яшчэ мець на ўвазе, што шэраг саматужнікаў зусім ня можа быць каапэраваны з прычын заможнасьці, выпаду промыслу з каапэраваньня, раскіданасьці саматужнікаў і г. д.

Другою прычынаю, якою патрабуюць некаторыя акругі стварэньня самастойных прамсаюзаў, яны высоўваюць пытаньні каапэраваньня. Але вопыт паказвае, што каапэраваньне зусім не адстае ў акругах, дзе адсутнічаюць прамсаюзы, і нараканьні ў гэтым выпадку, бязумоўна, лішнія, бо калі ўзяць асобныя акругі, дык тэмп каапэраваньня ў арцельным зьвенчаку за мінулы год абганяе сярэдні беларускі тэмп у 163,6 проц., Мазыр даў 196,1 проц., Полацак—261,2 проц.

Трэцім момантам, на які трэба зьвярнуць увагу—гэта паянакапленьне:

| Акругі | Арцелі | | | Таварыствы | | | Усяго | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Пай па статуту | Фактыч. сабрана | % | Стат. | Фактыч. сабрана | % | Стат. | Фактыч. сабрана | % |
| Менская | 342179 | 255844 | 74,7 | 106080 | 72613 | 68,4 | 448259 | 328457 | 73,2 |
| Гомельская | 297930 | 238674 | 80,3 | 45291 | 37454 | 82,6 | 343221 | 276128 | 80,4 |
| Віцебская | 217128 | 153036 | 70,4 | 52705 | 39854 | 75,6 | 269833 | 192890 | 71,4 |
| Бабруйская | 413502 | 282543 | 68,3 | 64955 | 58484 | 90,0 | 478457 | 341027 | 71,2 |
| Магілеўская | 301516 | 229886 | 73,2 | 70220 | 52861 | 75,2 | 371736 | 282747 | 76,0 |
| Аршанская | 28056 | 15017 | 53,5 | 76020 | 42822 | 56,3 | 104036 | 57839 | 55,5 |
| Полацкая | 65622 | 46632 | 71,0 | 22535 | 16445 | 72,9 | 88157 | 63077 | 71,5 |
| Мазырская | 90876 | 54170 | 59.6 | 29855 | 26231 | 87.8 | 120731 | 80401 | 66,7 |
| | 1756809 | 1275802 | 72,6 | 467661 | 346764 | 74,1 | 2224470 | 1622566 | 72,9 |

І тут відаць, што тэмп паянакапленьня не зьяўляецца выключэньнем для акруг, якія мы разглядалі.

## Грашовае становішча

Чацьвертым, і вельмі важным для нас пытаньнем зьяўляецца пытаньне грашовага становішча, інакш кажучы, якія сродкі маглі атрымаць-бы новыя саюзы, калі-б яны былі створаны:

| Акругі | 16% паю па статуту капіт. існаван. саюзаў | Іншыя капіт. і прыбытак існуюч. саюзаў | Вылучэлася бы для новых саюзаў: 16% паю па стат. капіт. | Ішш. капіт. і прыбыт. прапарц. паяв. капіт. | Усяго капіталаў | За вылiч. выдат. намомант арганіз. недадз. паяв. затрат на наём. | Новыя саюзы атрымалі-б капіт. у звар. сродкі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Менская | 71721 | 221700 | 71721 | 179876 | 251597 | — | — |
| Гомельская | 54915 | 176000 | 54915 | 130148 | 185063 | — | — |
| Віцебская | 43173 | 203800 | 43173 | 153609 | 196782 | — | — |
| Бабруйская | 76553 | 169600 | 76553 | 169600 | 246153 | — | — |
| Магілеўская | 59477 | 188000 | 59477 | 188000 | 247477 | — | — |
| Аршанская | 16652 | — | 16652 | 41824 | 58476 | 14619 | 43857 |
| Полацкая | 14105 | — | 14105 | 50191 | 64296 | 16074 | 48222 |
| Мазырская | 19317 | — | 19317 | 45852 | 65169 | 16292 | 48877 |

Апошняя графа гаворыць за тое, што стварэньне прамсаюзаў ня можа адбывацца з такімі нязначнымі сродкамі без дапамогі сыстэме звонку.

Не апошнім пытаньнем зьяўляецца таксама пытаньне моцы нізавых арганізацый. За апошні час каапэраваньне і ўзбуйненьне па лініі з'яднаньня, мэханізацыі вытворчасьці ператварае шэраг нашых арганізацый ў прадпрыёмствы фабрычна-заводзкага тыпу, для арганізацыйна-культурнага і гаспадарчага абслугоўваньня якім неабходзен таксама гаспадарча-грашовы моцны цэнтр, чым ні ў якім разе не маглі-б зьявіцца арганізаваныя саюзы, будучы ўжо ў сваім нараджэньні карлікавымі.

## Забесьпячальна-збытавая работа

Возьмем і прааналізуем забесьпячальна-збытавую работу. Агульны зварот (арцелі і таварыствы) мелі па збыту і забесьпячэньню за 1-шы квартал 1928-29 году 8.038,8 тыс. руб. і з гэтае сумы на долю трох акруг падае 1427,7 тыс. руб., альбо 17,2 проц.

Калі ўзяць пад увагу, што ў першым квартале існавалі 8 саюзаў, дык выходзячы з памераў ахопу па забесьпячэньню сваей нізоўкі ў 75 проц., а гэта максымальнае—зварот трох новых саюзаў выказаўся-б у 1.070,7 тыс. руб., альбо на адзін саюз 119.000 руб. у адзін месяц. Памер-жа звароту, які можа быць бясстратным, 250—300 тыс. руб. Адсюль вынік, што з гандлёвага пункту погляду новыя саюзы зьявяцца стратнымі.

Яшчэ найбольш немэтазгодным зьявілася-б стварэньне новых саюзаў з пункту погляду разьвіцьця транзытных апэрацый. Сучаснае становішча ў адносіне транзыту такое:

| | 1 кварт. 1928-29 г. | | 2 кварт. 1928-29 г. | | Усяго за паўгодзьдзе | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Склад | Транзыт | Склад | Транзыт | Склад | Транзыт |
| Акрсаюзам | 261821—14<br>19,5% | 1083805—91<br>80,50% | 154155—81<br>6,10% | 2379144—41<br>93,90% | 415976—95<br>11,0% | 3462950—32<br>89,0% |
| Менаддзял. | 833608—10<br>89,50% | 98716—00<br>10,50% | 824719—09<br>77,00% | 2117230—70<br>23,00% | 1658327—19<br>83,0% | 345946—70<br>17,0% |

Як відаць, з кварталу ў квартал павялічваецца транзыт тавараў шляхам непасрэднага завозу ў саюзы, мінуючы склады Белсамправсаюзу. Са стварэньнем новых саюзаў памер накіраваньня асобных партый тавараў, якія вытвараюцца цяпер транзытам, зьменшыцца з прычыны немэтазгоднасьці накіраваньня з-за дарагавізны тарыфу, а тым самым прымусіць Белсампрасаюзісьці на складачны водпуск, што на многа падаражыць сабекаштоўнасьць тавараў як для новых, так і для старых саюзаў, у якіх, бязумоўна, скароціцца зварот.

Ёсьць асаблівасьці ў адносіне Менска-Аршанскага аддзяленьня, на якіх неабходна спыніцца і якія групуюцца ў 2 асноўных момантах. Першае, што Менска-Аршанскае аддзяленьне хварэе на „саматужніцкую вадзянку“, што яно ахапляе каля $^1/_3$ усіх саматужнікаў Беларусі. Другое — што калі параўнаць адлегласьць паміж Воршаю і Менскам і Воршаю і Магілёвам, дык зусім яскрава, што адлегласьць ад Воршы да Менску ў тры разы большая, чым ад Оршы да Магілева. Такім чынам, атрымоўваецца, што тавар з Масквы робіць лішні прабег да Менску для таго, каб зноў зьвярнуцца ў Оршу. Да таго-ж шляхі зносін да Полацку і Мазыра маюць просты напрамак ад сваіх цэнтраў з усходу на захад, што дазваляе разьмеркаваць тавар сярод нізавое сеткі, адкінуўшы ламаную лінію перавозак, чаго нельга сказаць пра Оршу.

Гэтыя два моманты патрабуюць для пабудовы нармальнае сеткі Аршанскую акругу перадаць у абслугоўваньне Магілеўскага прамсаюзу, бо гэта зьяўляецца мэтазгодным, як мы бачым з пабудовы аналёгічнае сеткі спажыўкаапэрацыі.

Апрача вышэй пададзенага погляду, трэба сказаць, што структура і ўзаемаадносіны аддзяленьня з Белсампрамсаюзам, якія зараз існуюць, бясспрэчна, ненармальныя. Для аддзяленьня, ў мэтах адхіленьня гэтых недахопаў, ёсьць два выхады: першы—стварыць асобны бухгальтэрскі апарат (на асобным балянсе), перадаўшы частку сродкаў з правам загаду апошнімі па аналёгіі існуючых аддзяленьняў іншых гарадоў. Другі шлях—гэта стварэньне самастойнага саюзу.

Мы лічым, што пры тых правох, якія атрымала аддзяленьне па вышэйпаданай думцы, яно ніколькі ня розьнілася-б ад саюзу за выключэньнем выбарнасьці кіруючага складу.

---

В

## Транзыт і яго магчымасьці ў спажыўкаапэрацыі

Максымальнае разьвіцьцё транзытнага завозу тавараў у спажывецкія таварыствы, мінуючы цэнтральныя склады райсаюзаў, зьяўляецца неадкладнаю задачаю спажывецкай каапэрацыі. Разьвіцьцё транзыту зьяўляецца адным з відаў рацыяналізацыі каналаў таварапрасоўваньня. Якое-ж фактычна становішча? Трэба сказаць, што ў 1927/28 г. і ў пачатку 1928 29 г. транзытны завоз тавараў практыкаваўся зусім у недастатковым памеры. Гэта тлумачыцца тым, што райсаюзы, а адсюль і працаўнікі спажывецкіх таварыстваў зварочвалі мала ўвагі на пытаньне разьвіцьця транзыту.

Асноўнае месца ў транзытным завозе займалі хлебапрадукты. Плянавасьці ў гэтай справе ня было. Якія-ж фактычныя магчымасьці разьвіцьця транзыту ў сыстэме спажыўкаапэрацыі?

З матар'ялаў, якія распрацаваны бюро рацыяналізацыі БКС, відаць, што транзыт можа быць разьвіты ў значна большым памеры.

У падставу пабудовы матар'ялаў былі пакладзены такія моманты: мінімум адпраўкі прамысловасьці, неабходны гадавы зварот спажывецкіх таварыстваў для ўздыму гэтага мінімуму, улічваючы ўдзельную вагу асобных груп тавараў у агульным асартымэнце і нармальны запас. Далей было прынята пад увагу месцазнаходжаньне спажывецкіх таварыстваў і іх адлегласьць ад чугункі. Тыя таварыствы, якія знаходзяцца на адлегласьці больш 40 вёрст ад чугункі, у разьлік ня прыняты, бо з такімі таварыствамі разьвіць транзыт надзвычайна цяжка.

Адны толькі спажывецкія таварыствы, якія знаходзяцца пры станцыі, могуць падняць транзытам 20 проц. звароту. Прыняўшы памер магчымага транзыту за 100 проц., атрымаецца, што апошняя група спажывецкіх таварыстваў, якая знаходзіцца на адлегласьці 25-40 вёрст ад чугункі, удзельнічае ў памеры 13-ці проц., а астатнія 87 проц. кладуцца на прыстанцыйныя таварыствы, якія знаходзяцца на адлегласьці 25 вёрст ад чугункі.

З боку райсаюзаў і аддзяленьняў павінны быць ужыты ўсе меры да разьвіцьця транзытных апэрацый. Гэтая праца павінна праводзіцца ў плянавым парадку. У квартальных плянах павінна быць канкрэтна паказана, якія тавары і ў якія таварыствы будуць завезены транзытам. Трэба распрацаваць пляны і па куставаньню т-ваў для іх забесьпячэньня транзытам.

Пры вырашэньні пытаньня аб формах капіталакіраваньня трэба мець на ўвазе і тыя чыста практычныя задачы, якія могуць быць вырашаны асабліва пры пададзенай форме.

Да ліку такіх задач трэба аднесьці:

а) разьвіцьцё і ўзмацаваньне матар'яльна-тэхнічнай базы сыстэмы за кошт рацыяналізаванага выкарыстоўваньня сродкаў звароту ў сыстэме;

б) падвышэньне зацікаўленасьці ў мабілізацыі ўсялякага роду нізавых сродкаў;

в) спрашчэньне тэхнікі разрахункаў і зваротаў дакумэнтаў, што дасьць шмат карысьці ў якасьці хуткасьці разрахункаў і звароту сродкаў;

г) скарыстаньне ў большых памерах сродкаў сыстэмы, якія знаходзяцца па-за поўным зваротам;

д) скарыстаньне рэжыму банкаўскіх мэтадаў для барацьбы с растратамі;

е) магчымасьць дасягнуць большай эканоміі ў выдатках па таваразвароту.

Такім чынам, праблема капіталакіраваньня ёсьць найвялікшы фактар рэканструкцыі крэдыту, вырашэньне якога павінна прынесьці значную карысьць як сыстэме, з аднаго боку, так і наогул усёй народнай гаспадарцы.

# НА МЯСЦОХ

З. Левін

## Некаторыя вынікі правядзеньня перавыбарчай кампаніі

Сёлетняя перавыбарчая кампанія праведзена пад лёзунгамі: 1) вызваленьня арцеляй ад кулацка-нэпманскіх элемэнтаў; 2) узбуйненьня арцеляй аднародных промыслаў; 3) больш узмоцненага тэмпу каапэраваньня беднаты; 4) увядзеньня дыфэрэнцыяванага паю; 5) падбору клясава-блізкага кіруючага складу ў арцелях і таварыствах.

У асноўным саматужная маса была ўжо падрыхтавана да гэтых практычных мерапрыемстваў мясцовымі партыйнымі і савецкімі арганізацыямі. У радзе раёнаў ужо было намечана, каго трэба вычысьціць з арцеляй, каго ўвесьці ў кіруючы склад. Усё гэта было праведзена на папярэдніх сходах беднаты. У некаторых раёнах арцелі і таварыствы былі абсьледваны загадзя групамі лёгкай кавалерыі, так што да моманту перавыбараў савецкая грамадзкасьць мела ўжо пэўную думку аб рабоце тэй або іншай арцелі. Вось, напрыклад, у Чэрвенскім раёне арцель краўцоў „Прагрэс“.

У гэтай арцелі 13 чалавек, з іх 4 заможныя. Фактычнае і безадказнае загадваньне справамі арцелі знаходзілася ў руках Шапіра (заможнага), які лічыўся закупшчыкам, старэйшым майстрам, закройшчыкам, касірам і часткова рахункаводам у арцелі. У сваёй рабоце ён апіраўся выключна на заможную частку членаў арцелі, якія ўсякімі шляхамі стараліся зводзіць арцель з правільнай каапэрацыйнай лініі. Ігнараваліся паказаньні як з боку БСПС, так і мясцовых арганізацый у пытаньні ўстанаўленьня цьвёрдых цэн на работу і за вырабы. Цэны былі свавольныя, бралася 20 руб. за жаночае пальто (за работу) і па 15 р. за мужчынскі гарнітур. Акрамя таго, выкананьня заказаў прыходзілася чакаць 2-3 месяцы.

Ня гледзячы на надзвычайную загрузку арцелі работай, заможная частка, на чале з Шапіра, не дапускала прыёму ў арцель беднякоў, а прыняла больш заможнага Батвіньніка, які мае вялікую камяніцу. Нормы раскрою былі перавышаны на 15-20 проц. супроць максымальных норм, якія дапушчаюцца нават адзіночкамі-саматужнікамі. Так, на жаночае пальто, замест належных 2,10 м., выпісвалася $2^1/_2$ м., 2,75 см. і нават больш 3. Эканомія, якая атрымлівалася, не запісвалася, а разьмяркоўвалася паміж членамі арцелі, што зьяўляецца злоўжываньнем. У арцелі няма рэвізійнай камісіі.

5 вучняў, якія ёсьць у арцелі, і з якіх 3 працуюць больш году, не навучаюцца па праграме, а пераважна скарыстоўваюцца для дробнай некваліфікаванай работы, пры чым з боку паасобных членаў арцелі, з якіх асабліва вызначаўся член арцелі Шустэровіч, былі дапушчаны факты зьдзекаў і нават зьбіваньне. Гэтым гр-н Шустэровіч, паводле вестак мясцовых арганізацый, пазычаў грошы на проценты і падрываў усякага роду мерапрыемствы, зьвязаныя з культурнай работай у арцелі.

Агульны сход пастанавіў выключыць з арцелі Шустэровіча, Шапіра пакінуць у арцелі ўмоўна, адначасова перадаць справу аб зьдзеках над вучнем у суд.

Таксама зьяўляецца характэрнай і арцель шаўцоў, у якой 12 чалавек. Тут таксама прыём бедняка Пэлікса патрабаваў умяшаньня БСПС.

Кіраўніцтва знаходзілася ў руках больш заможнай часткі, а таму заўважваюцца ненармальныя адносіны да больш бедных і менш кваліфікаваных работнікаў, якіх у арцелі 8 чалавек. Адсутнічаюць дапамога і паказаньні гэтым менш кваліфікаваным на лепшую выпрацоўку. Адсутнічаюць цьвёрдыя стаўкі на рамонт, на глебе чаго бываюць нездаровыя моманты „гандляў" у арцелі.

Паказальнай у сэнсе праяўленьня энэргіі ў адносінах самастойнага разьвіцьця і пашырэньня вытворчасьці бяз нічые дапамогі зьяўляецца арцель імя 1-га мая „Вышанка", Чэрвенскага раёну. Гэтая арцель арганізавана ў 1925 г. у складзе 5 членаў—мясцовых сялян сераднякоў. Арцель вырабляе для заводу „Энэргія" вагавыя варштаты, шафы, сялянскія крэслы, куфры, вульлі і г. д.

У арцелі зараз 24 чалавекі, з якіх толькі два Раманенкі зьяўляюцца дзецьмі буйных кулакоў. Арцель мэханізавана. Звароты па вытворчасьці на 1927-28 г. складаюць звыш 85.000 р., чыстага прыбытку—7.700 р.

У Чэрвенскім крэдытна-прамысловым таварыстве адсутнічаюць весткі аб сацыяльна-маемасным становішчы, а таму больш забясьпечанымі крэдытамі і таварамі зьяўляліся заможныя і серадцякі. Калі першая група беднаты атрымлівала ў сярэднім ў поўгода па 12 р. 30 к. крэдыту, дык заможная атрымлівала 14 р. 90 к., а серадняцкая—20 р. 80 к. У адносінах забесьпячэньня таварамі—такое-ж становішча. Калі заможны шавец Нісялевіч атрымаў за час з 1 мая 1928 г. па 1/X-29 г. на 428 р. 38 к., дык бядняк Гурвіч—таксама шавец—атрымаў за гэты-ж пэрыод дэфіцытнага тавару толькі на 50 р. 86 к.

Характэрна, што галоўным праваднікам гэтай лініі быў закупшчык Постап, які фактычна выдаваў тавары.

З боку гэтага Постапа было поўнае патураньне больш заможным саматужнікам. Ён у 1926 г. самавольна прадаваў атрыманыя для адзіночак дэфіцытны шчолак і нэгрызін прыватніку. У часе сходу (справаздачна-перавыбарчага) быў пададзены цэлы рад заяў аб ігнараваньні Постапам патрабаваньняў беднякоў-пайшчыкаў. У справах па разьмеркаваньні тавараў меліся запіскі старшыні Голуба, дзе ён катэгарычна, пад пагрозаю пастаноўкі пытаньня на праўленьні, прапануе Постапу спыніць выдачу дэфіцытных тавараў няпайшчыкам, што, відавочна, мела месца, бо чамусьці Чэрвенскае крэдытна-прамысловае таварыства заплаціла прампадатку больш 2.000 руб., у той час, як згодна пастановы ЦВК таварыствы ад падаткаў вызваляюцца.

Крэдытна-прамысловае таварыства абсалютна ня цікавілася ўнутраным жыцьцём арцеляй, не скарыстоўвала магчымасьці, што меліся ў яго, некаторага эканамічнага націску па лініі крэдытаў з тым, каб арцелі ішлі па правільнаму каапэрацыйнаму шляху.

Наогул трэба сказаць, што амаль усе крэдытна-прамысловыя таварыствы ў палітыцы разьмеркаваньня тавараў і крэдытаў прытрымліваліся забесьпячэньня ў першую чаргу і на лепшых умовах адзіночак-саматужнікаў. У Смалавіцкім таварыстве бралі з адзіночкі-саматужніка 10-12 проц. па пазыках, а з арцеляй—да 17 проц.

У Шацкім таварыстве саматужнік-шавец Гантман атрымліваў рэгулярна на 12-15 кілё падэшвы і палувалу ў той час, як на члена арцелі атрымліваліся ў сярэднім па 4-5 кілё. Натуральна таму, што калі ў саматужных сфэрах загаварылі аб зьмене курсу, саматужнік-адзіночка (больш заможны) пачаў групаваць вакол сябе і бяднейшую частку. Гэты самы Гантман з мэтай падрыву работы Шацкай арцелі шаўцоў „Прагрэс", у якой працавала 33 чал., з іх да 30 беднякоў, пад фірмай арцелі прадаў аднаму селяніну боты з кардоннымі заднікамі. Праз паўтары месяцы, калі каблукі скрывіліся, селянін зьявіўся з прэтэнзіяй у арцель. Быў складзены акт, перасланы ў акрсуд, і пачалося расьследаваньне. Шляхам допытаў высьветлілася, што селянін Касьцюковіч купіў гэтыя боты не ў арцелі, а ў Гантмана, і што Гантман вёў агітацыю сярод

сялян аб непатрэбнасьці арцелі. Справа перададзена пракурору.

Пры перавыбарчай кампаніі быў выяўлен ў цэлым радзе арцеляй перапродаж атрыманых ад БСПС дэфіцытных тавараў, як, напрыклад, ва Узьлянскай арцелі краўцоў. У некаторых арцелях былі выпадкі разьмеркаваньня паміж самімі членамі арцелі атрыманых дэфіцытных тавараў. У Пагосьце, Бярэзінскага раёну, была арганізавана шавецкая арцель, дзе заснавальнікам быў мясцовы шавец, які меў да арганізацыі арцелі 3 наёмных рабочых. Сам ён у арцелі не працаваў, а працавалі яго былыя наёмныя рабочыя За тое, што ён даў у пазыку 250 р., ён атрымліваў кожны месяц 25 руб. Справа таксама накіравана пракурору.

Усе гэтыя ненармальнасьці выкрыты былі бядняцкай часткаю саматужнікаў.

З вялікім здавальненьнем беднякі сустрэлі пераход на дыфэрэнцыяваны пай.

Уся кампанія праводзілася пад лёзунгам узмацненьня паянакапленьня. Усюды аднагалосна зацьвярджаліся разьмеркаваньні прыбыткаў па нормах, паказаных БСПС. Па некаторых раёнах, як напрыклад, па арцелях і таварыствах Чэрвенскага раёну ёсьць значныя сумы прыбытку ў 14.500 р., з якіх больш 2.000 р. пашло на каапэраваньне беднаты, на перакваліфікацыю некаторых катэгорый саматужнікаў, як шаўцоў, краўцоў і г. д.

Перавыбарчая кампанія дала толькі штуршок да арганізацыйнага афармленьня арцеляй. Задачы будучага— узмацніць вытворчы інструктаж, праводзіць некаторую мэханізацыю і падзел працы ва ўзбуйнёных ужо арцелях, разьвіваць промыслы на мясцовай сыравіне і замацоўваць клясавую лінію ў кіраўніцтве.

---

Макар Валацуга

## Па каапэрацыйных ухабах

(*Дарожныя нататкі Макара Валацугі*)

...Горача вельмі. Пыл. Цяжка ісьці. Ногі падбіваюцца, але я іду.

— Дажджу от няма,—наганяе мяне Мсьціслаўская Алена. От каб прайшоў, здаецца, аж павесялела-б усё. Рост шыбчэйшы-б пачаўся-б.

— Канешна, шыбчэйшы,—адказваю я, і мы ідзём.

А мне курыць... ку-у-рыць да таго хочацца, да таго хочацца... Ой!

— Чаго вы,—пытае ў мяне цётка,—ойкаеце, што вам баліць што, ці так—ад гарачыні мо, што?

— Каб скарэй, кажу, да Мсьціслава, цюцюну каб купіць. Курыць— цётачка, аж млею. Ой!

І мы з цёткаю пачынаем ісьці чым найскарэй. І от урэшце прыходзім.

— Дзіндобры,—кажу я ўвайшоўшы ў Мсьціслаўскі каапэратыў.

— Дзіндобры,—глядзяць на мяне, на сьвежага чалавека.

— Дайце, кажу, чым найхутчэй... дайце восьмы нумар віцебскага!

— Няма,—кажуць.

— Ну, дык „Рыбалова“ дайце!

— Таксама—нямаш.

— Ну, то... то... „Радыё“ дайце. Усёроўна,—кажу.

— І „Радыё“—няма.

— Тады давайце тое, што ёсьць!

— Што-о вы,—дзівяцца з мяне,— што-о вы! Вы, як відаць, ня ведаеце што ў нас—уга!—Ці цяперся выйшаў цюцюн! Даўно ўжо выйшаў. Прывязём хутка.

— Мы і самі,—кажуць яны далей,—калі хто, скажам, курашчы— унь, на тых століках, на мястэчку, бяром; па 12 капеек за 50 грам віцебскага. Нічога ня зробіш. Дзешавей не аддаюць. Ім чалавека такса-

ма трэба... Патэнт аплачваюць і ўсё такое. Так штэ, калі ня хочаце чакаць, пакуль прывязём, дык унь...

Ну, то што-ж я павінен быў рабіць, калі мне так-то хацелася курыць?

— Давайце, кажу, падыйшоўшы да століка,—дванаццаць, дык дванаццаць ..

А мне каля століка:

— Не дванаццаць, васпан, а пятнаццаць: як сабе хочаце—бярыце ці не бярыце, мне ўсёроўна: ня возьмеце вы, нехта другі возьме. Знойдуцца людзі.

Ну, то што я павінен быў рабіць?—І я заплаціў.

Я закурыў і іду далей. Чаго, чаго ня ўзбрыдзе ў галаву чалавеку. Ды яшчэ калі ён адзін, ды яшчэ калі яму ніхто не мяшае!

Я іду і от мне думаецца... думаецца, што крамар Хмялеўскага каапэратыву—Тарасюк—ізноў зробіць памылку: замест дваццаці фунтаў солі, выдасьць селяніну дзесяць.

Потым мне ўспамінаецца... Багушэўскае спажывецкае таварыства, Багушэўскага раёну. Там вельмі вялікая гарачыня, думаецца мне. Дык такою сьпякотаю, чорт яго ехаў за таварамі, за іх купляю! Сядзі сабе у цяньку. Любацьцё. Тут табе і мух няма, і авадні ня лётаюць. А як зьвечарэе—ідзі куды небудзь—прагульвайся, спацыруй. Мала куды можна ісьці. Што гэта забароніць хто, ці што?

— І ізноў усплываюць думкі, нібы хмары на кругавідзе; усплываюць цяпер, гэта калі я іду—пра каапэратыў, што пры Клюкаўскім сельсавеце:

—Ух як трашчаць, як ломяцца паліцы ад тавараў... тавараў!

На адных паліцах—руская горкая—цэлыя шары; на другіх—парфума і гэтак і далей; на трэціх—піва і аж да зямлі; на чацьвёртых—сёе-тое.

Адным словам, усе паліцы заняты.

Дык за рускую горкую плацяць. грашыма. Дык хто-ж у гэтым вінен, што засекі пустуюць, што не назьбірана хлеба, каб прадаць яго цяпер для беднякоў. Няхай яны, беднякі, пацерпяць крыху. Жыта цяпер ужо красуе; цераз два тыдні будзе налівацца, а яшчэ цераз два—сьпець будзе. Нічога ня зробіш-прыдецца крыху пацярпець. А без рускай горкай—нельга. Бо яна як стаіць на паліцах, дык аж міла глядзець. Адно галоўкі яе: шар чырвоных, шар белых—аж трымцяць! Адна ў адну:

І я іду. І ото-ж—бач сон мяне морыць. Вочы так і ліпнуць. Ведама,—сьпякота. Ды яшчэ накурыўшыся. Дык дзіва, што зморыць, дзіва што захочацца табе спаць.

І я кладуся, зьвярнуўшы з дарогі, каля ракітавых кустоў. Пад сонца. Няхай яно сонца пячэ. Дзьве работы будзе: і загара будзе на целе і прыкархну крыху.

Дык от я не пасьпеў задрамаць, як бачу, як на далоні, сваімі ўласнымі вачыма. Здаецца, я ў Узьдзенскім раёне, у Ліцьвянскім каапэратыве. У самым будынку. Здаецца, я там і—крамар Пятроўскі. Крама, здаецца, зачынена, а мы ўсярэдзіне. А на паліцах руская горькая. Пятроўскі і кажа:

— Глынём, ці што?

Ну то што я павінен яму адмовіць?

І я думаю, здаецца, сам сабе: што мая душа суконка ці што? А калі там што якое, дык што-ж там такое.

— Глынём, кажу.

І ён, здаецца, адкаркоўвае—адну, другую...

А калі я ня прыгледжуся, дык тут і лістаносец з Негарэльскае пошты, сам Зыблюк.

І таксама кажа:

— Глынём...

Якраз робіцца усё гэта, здаецца, на першы дзень вялікадня. Дык мы глытаем адну за другою; глытаем, гэтак... А галава круціцца, кру-у-ціц-ца..і І от ужо бачу я—ня ў трох мы, а . царкоўны стараста з намі. І ён таксама кажа:

Глынём! за сьветлы, можна сказаць, празьнічак, за хрыстусовыя пакуты.

Налей, налей тава-арыш... І так далей.

А пад дзьвярмі стук. Кулакамі нехта ў самыя дзьверы з усяе сілы гасіць.

Адчынеце! — крычыць, — адчынеце; мне трэба ўзяць сёе-тое.

А Пятроўскі:—няма ў мяне сяготаго, можаце сабе і ня стукаць.

А пад гэта самае, здаецца, сярод стукаючых, сын гаспадара Ліцьвінскага млыну. Ён таксама кажа на стукаючых—можаце сабе і ня стукаць. Таварышу Пятроўскаму ніколі за вамі атхланьня няма. Нідзе нельга, нават і на хвілінку схавацца, каб пабыць аднаму. Вы, кажа, як плойма якая. Дыхнуць чалавеку не дасьце. Сьвяты дзень не дасьце як трэба сустрэць.

І так і далей кажа.

А я сплю і ўжо, здаецца, не ў Ліцьвінскім каапэратыве, а у Асіпавіцкім. каля самага прылаўку. Стаю, гэтак—я і от дзядзька з рыжаю барадою, высокі такі, з худаватымі шчокамі, у суконнай жакетцы—кажа да Ліўшыца:

— Дайце мне мазі.

— Якой вам,—пытае Ліўшыц,— рапейнага масла, ці—ёсьць вельмі добрая мазь ад перхаці. А мо, яшчэ якой: разная ёсьць—для манікюраў і гэтак і далей.

— Мне для гужоў,—кажа дзядзька.

Але Ліўшыц перапыняе;

— Што вы, мілы мой чалавеча, хіба такая мазь ёсьць на сьвеце; хіба на гужы патрэбна мазь?!

— Ёсьць,—кажа з худашчавымі шчокамі, ў суконнай жакетцы,—ёсьць такая рэдкая, чорнага колеру.

— Ну то калі ёсьць,—згаджаецца Ліўшыц,—то ў такім выпадку можна будзе закупіць.

— Прывязём,—кажа ён,—прывязём калі-небудзь; чакайце.

Я ня ведаю, колькі я спаў. Ведаю толькі адно: лёг я пад куст, калі сонца было ў мяне з левага боку, а ўстаў—сонца апынілася з правага.

Гарачыня мяне ой як праняла! Пот скрозь маё цела выступіў буйнымі кроплямі.

Калі я падняў галаву, дык ў маім выбражэньні мітусіліся яшчэ два моманты. Гэта Левіт Хава з Полаччыны з Далецкага спажыўтаварыства. Яна, здаецца, не хацела браць касьцей, назьбіраных па полі. Яна казала сама сабе:

— Аб усякую дыхляціну куцай рукі. А тады ўслух дадавала, гэта ўжо таму, хто прыносіў косьці:

— У нас і вагі няма. Лепей нясеце іх (косьці) у крэдытнае таварыства. Яны бяруць...

А другі момант—гэта як адбываліся перавыбары Мазырскага млечнага таварыства, гэта як Дубінка Ігнат і Рыгор Дудзенка, набухтораныя Радзюком Лаўрэнам ды Клюйко Рыграм—крычалі:

— Ня трэба выбіраць жанчыны ў праўленьне! У жанчыны волас доўгі, а розум кароткі, от што!

Я, падняўшы з зямлі мае плечы— пазяхнуў. Тады пачухаў за левым вухам і ўспомніў. От што я успомніў:— мне вельмі страшэнна захацелася сала.

Да таго захацелася, захаце-э-лася... здаецца, няма ведама што даў-бы за самы танюсенькі кавалачак скваркі. От каб, здаецца, было яно цяпер, гэтак як зімою, у Марына-Горскім спажывецкім таварыстве, от каб было, ох! Дык от зайшоў-бы ды купіў-бы, а то-о...

— Ой як хочацца сала!

У сальнікаў-прыварнікаў, то яно, канешна, ёсьць. Але я—з роду ў іх ня купляў. Бо яны, я ўжо наперад ведаю іх,—хоць размудрыся ты сам сабе, а яны маюць натуру даражэй браць. От ён другі—каторы запросіць цану і—нібыто-што. Усёроўна як яна цана, спрадвеку такая. От бач, да чаго ўжо ўсякіх людзей на свеце.

Ну то што я павінен рабіць, калі сальнікі-прыварнікі па 6 - 7 пудоў прадаюць у дзень, і нарасхват? Што я павінен рабіць, калі і ляднік у Марына-Горскім таварыстве ёсьць і яно усё-ж баіцца трымаць летам сала?

Ну, то што-ж мне рабіць, калі мне цяпер так-то хочацца сала?

І я іду далей. Вечарэе. Нейдзе рыкае карова. Нейдзе іржэ маладое

жарабё. Дык я іду і сустракаю дзядзьку Аляксандра Кліменка, з вёскі Зімовічы Калінкавіцкага раёну.

— Добры вечар,—кажу я дзядьку.

— Добры вечар,—адказвае ён,

— Што прадаяце? - пытаюся я.

— От, то-сёе, то тое,—адказвае ён.

— Можа-б сала ці не прадалі, — пытаюся ізноў; да таго хочацца, кажу, сала. Проста такі ня вытрымаць, ой!

— Цяпер няма,—кажа дзядзька Аляксандар,—але цераз нейкі час будзе. Можна будзе дастаць. У мяне ўсякія тавары бываюць: - якія хто абы захацеў. У каапэратыве, часам ня бывае таго, што ў мяне, бо я, як пайшчык Слабоцкага каапэратыву, атрымоўваю тавар у першую чаргу. Дык от і прадаю яго (тавар) па крысе.

— Трэба-ж як-небудзь жыць, - кажа Аляксандар,—як ты думаеш васпан?

— Канешна трэба,—адказваю я— і слабоцкім каапэратарам трэба жыць і ўсім нам трэба. Адным словам, усім—у каго ёсьць галава, а ў талаве мазгі, а ў мазгох—розум...

І я іду—разьмінаюся з Аляксандрам, сьпяшаюся нанач на Сьмілаўшчыну.

# БІБЛІАГРАФІЯ

## „Кооперативное строительство"—двухтыднёвая часопісь, № 10-29 г.

Адразу пры разглядзе часопісі кідаецца ў вочы добрая арганізаванасьць з тэхнічнаго боку. Вялікая колькасьць малюнкаў упрыгажае часопісь і робіць яго прыемнай для ўспрыманьня.

На пытаньне сацыялістычнага спаборніцтва зьвернута вялікая ўвага. Тут, апрача задач, якія высоўваюцца ў сацыялістычным спаборніцтве, падаюцца і матар'ялы, як практычна гэта правесьці. Аддзел „Па гарадох і вёсках" зьмяшчае карысны, цікавы матар'ял. Тут пададзены абмен вопытам працы і арганізаванае выступленьне супроць недахопаў і цяжкасьцяй

Ёсьць матар'ял, які і ня зусім падыходзіць. У аддзеле „Па рабочай каапэрацыі", а часткаю і па іншых аддзелах, зьмешчаны такі матар'ял, без якога каштоўнасьць часопісі нікольькі-б не панесла страты.

**Ш. Стагодаў.**

## „Молочное хозяйство" орган саюзу малочнай каапэрацыі—№ 7-8 1929 г.

Характэрнаю рысаю гэтага нумару зьяўляецца рознастайнасьць пададзенага матар'ялу. Тут мы можам чытаць многа па розных пытаньнях практыкі працы малочай каапэрацыі.

Найвялікшую цікавасьць надае сабой пытаньне далейшага разьвіцьця малочнай каапэрацыі. Пастановы СТО і НК РСІ ў гэтай галіне прымушаюць кожнага з працаўнікоў дэтальна азнаёміцца з практычнымі задачамі разьвіцьця малочнай каапэрацыі.

У аддзеле „Скотоводство" найбольш важным зьяўляецца пытаньне кармавое. Гэты аддзел найбольш арганізаваны як па зьместу, так і з фармальнага боку.

Адзіная хіба—гэта тое, што часопісь нікольькі не закранае пытаньня сацыялістычнага спаборніцтва.

**Э. Дыбіч**

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Аб некаторых няправільных абкладаньнях спажывецкіх каапэрацыйных арганізацый мясцовымі падаткамі

1. Пастановай ЦВК і СНК БССР ад 3/X 1928 г. (З. З. СССР за 1928 г., № 62, арт. 565 „Изв. ЦИК“ 1928 г. № 214). Мясцовым саветам дадзена права ўстанаўляць мясцовы падатак з рэстаранаў, сталовак, піўных крам і г. д. Гэты падатак устанаўляецца пастановамі акрвыканкомаў і спаганяецца, незалежна ад прамысловага падатку, у наступных памерах:

а) з прадпрыемстваў, якія адпушчаюць сьпірытусовыя напіткі (гарэлку, віно, піва) і ежу, калі яны ўтвараюць гандаль пасьля 23 гадзін, за выключэньнем піўных, ня звыш 60% акладаў дзярж. прамысловым падаткам;

б) з прадпрыемстваў, якія адпушчаюць сьпірытусовыя напіткі (гарэлку, віно і піва), за выключэньнем піўных крам, ня звыш 30% акладаў дзяржаўнага прампадатку;

в) з піўных крам ня звыш 15% акладаў дзяржпрампадатку.

2. Згодна палажэньня аб мясцовых фінансах БССР ад 23/IX 1928 г., арт. 18, п. „н“ і арт. арт. 67—70 гэтага палажэньня (З. З. БССР за 1928 г. № 33) у гасьцініцах, трактырах, кафэ, якія знаходзяцца ў акруговых гарадох, устанаўляецца абавязковая выдача рахункаў наведвальнікам і ўплата мясцовага падатку з гэтых рахункаў.

| | | |
|---|---|---|
| Пры суме рахунку ад 5 да 7 руб. | 5% | з сумы рахунку |
| „ „ „ „ 7 „ 10 „ | 8% | „ „ „ |
| „ „ „ „ 10 „ 15 „ | 10% | „ „ „ |
| „ „ „ „ 15 „ 20 „ | 12% | „ „ „ |
| „ „ „ звыш 20 „ | 15% | „ „ „ |

Некаторыя падатковыя інспэктары патрабуюць ад спаж. таварыстваў і ЦРК уплачваць гэтыя падаткі за прадпрыемствы, якія ў іх знаходзяцца і прадаюць хлебнае віно, піва.

Растлумачваем наступнае:

1. Вышэйадзначанымі падаткамі могуць абкладацца толькі рэстараны, сталоўкі, піўныя крамы, трактыры, г. зн. заклады, ў якіх віно і піва спажываюцца на месцы. Крамы, у якіх віно і піва прадаецца на вынас, гэтымі падаткамі не абкладаюцца.

2. Каапэрацыйныя сталоўкі і буфэты, якія знаходзяцца пад кантролем „Нарпіта“, гэтых падаткаў таксама ня плоцяць, бо яны аслабанёны ад усялякіх мясцовых падаткаў і збораў. (Глядзі Палажэньне аб мясцовых фінансах, зацьвердж. ЦВК і СНК СССР ад 25/IV 1926 г. арт. 42, п. „е“ (З. З. СССР за 1926 г. № 31).

Такім чынам, вышэйадзначаныя падаткі да спажывецкіх каапэрацыйных арганізацый могуць адносіцца толькі па піўных крамах (піўнымі лічацца заклады, якія адпушчаюць для спажываньня на месцы піва, калі пры гэтым падаюцца толькі халодныя закускі), бо піўных крам „Нарпіт“ пад свой кантроль ня прымае, а таксама па рэстаранах і сталоўках, якія ня прыняты пад кантроль „Нарпіта“.

---

## Тлумачэньні

Пастанова ЦВК і СНК БССР за 27-XII—28 г. аб парадку аддачы ў арэнду і аплаты будынкаў, памяшканьняў і пляцоў для гандлёва-прамысловых і складачных мэтаў выдадзена згодна пастановы ЦВК і СНК СССР за 9-V—28 г. Абодвы гэтыя законы тут надрукованы. Пры карыстаньні імі каапэрацыйныя арганізацыі павінны звярнуць увагу на наступныя моманты:

1. Будынкі і памяшканьні, прызначаныя для гандлёва-прамысловых мэтаў, па вінны здавацца каапэрацыі без таргоў усімі ўласьнікамі іх: камгасамі, дзяржорганамі, жыльлёваю каапэрацыяй і прыватнымі асобамі (арт. арт. 1 і 2 пастановы 27-XII—1928 года).

2. Разьмер арэнднае платы ўстанаўляецца арэнднымі камісіямі, ў склад якіх абавязкова ўваходзіць прадстаўнік Белкаапсаюзу. Апошні сваё права перадае мясцовай арганізацыі спажывецкай каапэрацыі (арт. 20 пастановы).

3. Арэндная плата ўстанаўляецца для кожнага будынку, альбо памяшканьня паасобна на тэрмін ня менш году, зыходзячы з выгаднасьці месца знаходжэньня памяшканьня ці будынку, каштоўнасьці іх пабудовы і абсталяваньня і даходнасьці апэрацый таго прадпрыёмства, для якога гэтае памяшканьне, арандуецца. Канкрэтна і абавязкова ўлічваюцца: а) будаўнічая каштоўнасьць, б) амартызацыйныя налічэньні і в) чысты прыбытак, які ўласьнік павінен атрымліваць на ўкладзены у будынак капітал (на будаўнічую каштоўнасьць) (гл. арт. 3 пастановы). Будаўнічая каштоўнасьць вызначаецца згодна арт. арт. 6 і 7 пастановы. Пры гэтым у арт. 7 паказаны максымальныя нормы будаўнічае каштоўнасьці. У арт. 4 паказаны таксама максымальныя проценты адлічэньняў у амартызацыйны фонд для розных гарадоў і розных будынкаў. Максымальныя проценты ў чысты прыбытак вызначаны ў арт. 5 пастановы. Такім чынам арэндныя камісіі могуць зьнізіць устаноўленыя законам максымальныя нормы і проценты, адзначаныя ў арт. 4, 5 і 7, але ні ў якім разе не падвысіць іх.

4. Арт. 8 пастановы адзначае, якія выдаткі павінен несьці арандатар, акрамя арэнднае платы (бягучы рамонт, апал, сьвет, камунальныя паслугі, страхаваньне будынку, уплату падаткаў, рамонт тратуараў і г. д. Капітальны рамонт робіць уласьнік—арт. арт. 8 і 9).

5. Зьвярнуць увагу на арт. 12 аб парадку вызначэньня каштоўнасьці, амартызацыі і даходнасьці абсталяваньня, калі памяшканьне перадаецца з абсталяваньнем.

6. Закон гэты ўваходзіць у моц 1 студзеня 1929 г. і распаўсюджваецца на гарады, мястэчкі і вёскі. Усе папярэднія законы БССР па гэтаму пытаньню касуюцца. Ва ўсе папярэднія договоры на арэнду ў працягу м-ца павінны быць унесены зьмены адпаведна новаму закону. Калі той ці іншы бок ня згодзен на іх зьмену, то дагавор зусім касуецца на падставе арт. 146 Г. К. і павінен быць заключаны цалком новы дагавор на падставе новага закону (арт. арт. 23, 24).

7. Калі ў паасобных выпадках існуючы памер арэнднае платы меншы, чым будзе вызначана арэнднай камісіяй па новаму закону, дык сама камісія можа для асобных арганізацый захаваць існуючую стаўку арэнды, але ж не далей, як да 1-X—29 г. (увага да арт. 24).

8. Трэба, каб каапэрацыя поўнасьцю скарысталла свае правы па новаму закону, бо нават максымальная арэндная плата, якая можа быць вызначана на падставе новага закону, будзе меншай, чым існуючая арэндная плата. Выключэньне з гэтага правілу будзе рэдкім. Арэндныя-ж камісіі маюць права зьнізіць гэтыя максымальныя стаўкі.

Разрахункі па арэндзе за 1928 г. трэба скончыць на падставе дагавораў, якія былі заключаны на 1928 г., а калі дагавораў ня было, то на падставе фактычных арэндных ставак, якія існавалі на 1-V—28 г., бо з часу выданьня пастановы ЦВК і СНК СССР ад 9-V—28 г. Кэмгас і жыльлёвая каапэрацыя ня мелі права падвышаць арэндныя стаўкі на памяшканьні. Патрабаваньні іх аб уплаце арэнды звыш ставак, якія існавалі на 1-V—28 г., выкананьню не падлягаюць.

У выпадку спагнаньня імі арэнднае платы па падвышаных стаўках праз суд каапэрацыйныя арганізацыі павінны спасылацца на пастанову ЦВК і СНК БССР ад 9-V—28 г. (З. З. СССР за 28 г. і „Изв. ЦИК"—28 г. № 124), якою было забаронена падвышаць арэндныя стаўкі.

10. Каапэрацыйныя сталоўкі і чайныя плацяць арэнду у 1928 і ў 1929 г. па стаўках, устаноўленых для бюджэтных устаноў, калі гэтыя стаўкі акажуцца ніжэй тых, якія будуць устаноўлены арэнднымі камісіямі па закону 27-XII—28 г. (гл. паст. СНК БССР ад 14-III—28 г. „Сав. Беларусь" 28 № 93 (2281).

11. Арэндная плата за хлебныя лабазы (дзе прадаецца мука, крупа і г. д.) ня можа перавышаць 20 кап. за кв. мэтр. у м-ц, а за хлебныя амбары (дзе толькі захоўваюцца загатаўляемыя хлебафуражныя тавары)—10 к. за кв. мэтр плошчы у м-ц (арт. 22 паст. 27-VII—28 г. і пастанова Экана ад 31-X—27 г. „Шлях Каапэрацыі"—1927 г. № 1-61).

М.

# ХРОНІКА

## У сампрамсаюзе

У гор. Магілеве, Магілеўскім саматужна-прамысловым саюзам разам з ОРТ-ам арганізавана на 40 вучняў ткацка-мастацкая школа па падрыхтоўцы кваліфікаванае рабочае сілы для вясковых і местачковых ткацка-мастацкіх арцеляй. 25 проц. утрыманьня школы ўзяў на сябе Магпрамсаюз, а астатнія—Камзэт.

У бягучым годзе Белсампрамсаюз мяркуе пусьціць у ход 100 рэторт па сухой перагонцы дрэва, са штодзённай перапрацоўкай 150 куб. мэтр. бярозы і інш. лісьцьвеных парод. Пры перапрацоўцы выходзяць наступныя прадукты: сьпірытусовадрэўны парашок, які мае ў сабе вуксуснакіслы кальцы да 62 проц. Парашок пойдзе выключна для дзяржпрамысловасьці, для перапрацоўкі яго на вуксусную кіслату эсэнцыю, соль і інш. Па Менскай акрузе будзе пабудавана 50 рэторт, па Гомельскай і Мазырскай—50.

Гомельскі сампрамсаюз пастанавіў існуючую Петрыкаўскую арцель па вырабу барж, лодак і інш. пашырыць з 75 членаў да 160 чл. і павялічыць вытворчую праграму арцелі ў два разы.

Белсампрамсаюз прымае такі ўдзел на Ніжагародзкім кірмашы: па куплі мяхоў, скур, мэталяў, шэрсьці, пражы на суму 2.303.000 руб., па збыту гатовых вырабаў: трыкатажных, хэмічных, люстэрак, гнутае мэблі, саломкі „спатры" і інш, на 1.410.000 р.

*Рэдактар—РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ*

*Выдавец—Каапцэнтры БССР, Белсельбанк і Ўсекабанк*